НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 40 (877) 29 кастрычніка 2014

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Лукашэнка на сустрэчы з пісьменнікамі: Мне дастаткова дзве гадзіны, каб пачаць размаўляць па-беларуску

Старонка 3.

# 墨 МОВА 瓦

## Народ, не чапайце прэзідэнта дзве гадзіны! 20 гадоў, і ўсё торгаюць!

Гэтыя іерогліфы выкарыстаў у сваім рамане «Мова» Віктар Марціновіч. Адзін з іх па-кітайску чытаецца як «мо», а другі — як «ва». Дзеянне рамана адбываецца ў будучыні. Беларусь захоплена Расіяй, а сама Расія — Кітаем. Ад Еўропы нас аддзяляе Новая Вялікая Кітайская Сцяна... **Старонка 11**.

### Свет

## Геть від Москви

На выбарах у Вярхоўную Раду Украіны праеўрапейскія партыі сабралі каля 80% галасоў. **Старонка 2.**




### Персона

## Князь Вітаўт з Калымы

Гісторыя поспеху Генадзя Давыдзькі. **Старонка 4.**



### Рэпартаж

## «Вова, навошта табе Беларусь?»

Адзін дзень у Бранскай вобласці Расіі, якая некалі хацела ў Беларусь. **Старонка 9.**



### Крымінал

## У цыганскай сям'і браты не падзялілі жанчыну

Гісторыя кахання скончылася трагедыяй. **Старонка 7.**



## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Геть від Москви

**На выбарах у Вярхоўную Раду Украіны праеўрапейскія партыі разам сабралі каля 80% галасоў.**

Упершыню камуністы не трапілі ў парламент, а былая партыя Януковіча атрымала ўсяго 9% галасоў. Усходняя Украіна правяла ў Раду нацыяналістаў, у тым ліку кіраўніка «Правага сектара» Дмытра Яраша. А Заходняя, наадварот, падтрымала палітыкаў-тэхнакратаў, палітыкаў-інтэлектуалаў.

У абласцях захаду і поўначы Украіны ўпэўнена перамог Народны Фронт вундэркінда-прэм'ера Арсеня Яцанюка.

Давер да прэм'ера вялікі — і гэта нягледзячы на балючыя рэформы і недахоп газу для ацяплення гарадоў. Украінцы цэняць яго як эканаміста. Але таксама і ягоную рашучую пазіцыю па Данбасе — ён у гэтым пытанні нашмат радыкальнейшы за Пятра Парашэнку. Ён лічыць, што Маскве нельга верыць і што трэба быць гатовым да абароны ў любую хвіліну.

Цэнтрысцкі Блок Пятра Парашэнкі (БПП) набраў большасць у цэнтры і на поўдні краіны.




Але яго вынік далёкі ад чаканага. Ён адстаў ад Народнага Фронту на 0,4% галасоў.

Сюрпрызам стала трэцяе месца антыалігархічнага, грамадзянскага спіса «Самапомач» на чале з інтэлігентным мэрам Львова Андрэем Садовым. Прычым у Кіеве «Самапомач» увогуле перамагала.

Затое ў Раду не прайшла нацыяналістычная партыя «Свабода», не хапіла ёй 70 тысяч галасоў. Пры гэтым іншая нацыяналістычная партыя «Правы сектар», з якой зрабілі жупел расійскія СМІ, сабрала 300 тысяч галасоў. Калі б яны ішлі на выбары разам, то мелі б больш дэпутатаў. А так правялі толькі 9 чалавек у аднамандатных акругах, прычым пераважна ва Усходняй Украіне.

Па спісе Блока Юліі Цімашэнкі ў Раду прайшла лётчыца Надзея Саўчанка, якая застаецца ў расійскай турме. Ва Украіне палову дэпутатаў абіраюць па партыйных спісах, а палову — па аднамандатных акругах. Пры такой сістэме палітычныя сілы, што аказваюцца ў меншасці, заўжды гарантавана атрымліваюць прадстаўніцтва ў парламенце. У той жа час дэпутаты-мажарытарнікі, у тэорыі, добра разумеюць патрэбы сваіх рэгіёнаў.

На ўсіх мінулых выбарах у мажарытарных акругах масава перамагалі бізнэсоўцы. Раней яны далучаліся да фракцыі Партыі рэгіёнаў. Але гэтым разам яны будуць схільныя ўпісвацца ў БПП.

Аднак у такім раскладзе тояцца і свае небяспекі. Дэпутаты-мажарытарнікі ва ўкраінскім варыянце схільныя адстойваць інтарэсы сваіх бізнэс-кланаў, а не дзяржавы. У мінулым гэта непазбежна прыводзіла да карупцыі, якая б партыя ні перамагала.

Трывожным сімптомам было тое, што яўка на ўсходзе была прыкладна на 20% ніжэйшая, чым на захадзе (у сярэднім па краіне яўка склала 52%). Многія людзі там не спадзяюцца на ўкраінскія ўлады, ігнаруюць іх і не вераць ніводнай партыі. Вось такія і ёсць базай для «Наваросіі».

На абломках былой Партыі рэгіёнаў утварыліся два спісы. Так званы «Апазіцыйны блок» сабраў 9% галасоў. А вось камуністаў у парламенце больш не будзе. Іх электарат застаўся ў ДНР і ЛНР, дзе выбары не праводзіліся. Аж у 27 акругах з 225 выбары арганізаваць не было магчымасці.

Разам тры прарасійскія партыі набралі ўсяго каля 15% галасоў. Без Крыма і ўсходняга Данбаса яны не маюць шанцаў на большасць.

Расія захапіла Крым і ўсходні Данбас, але адштурхнула ад сябе рэшту Украіны. І зараз у якасці інструмента ўплыву ў яе застаецца толькі газавая труба.

Перамога праеўрапейскіх сілаў на парламенцкіх выбарах дасць ім усе магчымасці для канчатковага дэмантажу старой сістэмы.

**Мікола Бугай**

**Вынікі выбараў па партыйных спісах, %**

| | |
|---|---|
| Народны Фронт (прэм'ер-міністр Яцанюк, старшыня Вярхоўнай Рады Турчынаў) | 22 |
| Блок Пятра Парашэнкі | 21 |
| Самапомач (мэр Львова Садовы) | 11 |
| Апазіцыйны блок (былая Партыя рэгіёнаў Януковіча) | 9 |
| Радыкальная партыя (украінскі нацыяналістычны папуліст Ляшко) | 7 |
| «Бацькаўшчына» (Цімашэнка) | 6 |
| **Хто ў Раду не прайшоў, %** | |
| «Свабода» (нацыяналістычная партыя) | 4,7 |
| Камуністы | 3,9 |
| «Моцная Украіна» (Цігіпка) | 3 |
| «Правы сектар» (іншая нацыяналістычная партыя) | 1,8 |
| Інтэрнэт-партыя | 0,4 |
| **Колькасць мандатаў у Радзе** (папярэднія вынікі) | |
| Блок Пятра Парашэнкі | 127 |
| Народны Фронт | 85 |
| Апазіцыйны блок + былыя рэгіяналы, якія будуць блакавацца з імі | каля 80 |
| Самапомач | 33 |
| Радыкальная партыя | 22 |
| «Бацькаўшчына» | 19 |
| «Свабода» і «Правы сектар» | 9 |
| Беспартыйныя | каля 58 |
| Вакантныя месцы ад акупаваных рэгіёнаў Крыма і Данбаса | 27 |

**Сын за бацьку**

Дэпутатам ад адной з акругаў Вінніцкай вобласці стаў сын Пятра Парашэнкі Аляксей. Ён набраў 64% галасоў. Раней па гэтай акрузе ў парламент абіраўся Парашэнка-старэйшы.

Вінніцкая вобласць, дзе знаходзяцца найбуйнейшыя заводы «Рашэн», дала за Блок Парашэнкі найбольш галасоў.

Аднак рашэнне яго сына балатавацца пашкодзіла ягонаму выбарчаму спісу. Многія ўкраінцы крытыкавалі такую сямейнасць.

Легендарны сотнік Майдану **Уладзімір Парасюк** набраў 56% галасоў. Ён балатаваўся ў Раду як самавылучэнец на адной з акруг у Львове.



Гэта Парасюк сваім палымяным выступам з трыбуны ў лютым сарваў пагадненне, падпісанае з Віктарам Януковічам, што стала пачаткам новай палітычнай эры для Украіны.

У аднамандатных акругах перамагаюць і іншыя героі Майдану. Дмытро Яраш з «Правага сектара» набірае большасць на сваёй радзіме ў Днепрапятроўскай вобласці. За яго прагаласавалі 29% выбарцаў. Найбліжэйшы супернік адстае на 15%.

Пабрацімы Яраша Барыслаў Бяроза і Андрэй Білецкі трыумфавалі ў Кіеве. А баец батальёна «Айдар» Ігар Лапін — на Валыні.

У спісах дэпутатаў ад Блока Пятра Парашэнкі — дзеячы грамадзянскай супольнасці і журналісты Лешчанка, Наем і Тымчук.

Героі Майдану нададуць новай Радзе моцнае патрыятычнае і нацыяналістычнае адценне.

## Сцісла

**Пенсіі растуць, заробкі стаяць на месцы**

Паводле дадзеных Белстата, сярэдні заробак у верасні зменшыўся да $603, хоць яшчэ ў ліпені фіксавалася $629. Вінаватая перадусім плаўная дэвальвацыя рубля.

Затое з 1 лістапада вырастуць працоўныя пенсіі, у сярэднім на 5,3%.

**Эвакуяванае аўто аддадуць адразу**

Уступіла ў сілу новая інструкцыя аб прымусовай эвакуацыі аўтамабіля. Уцягнуць аўто на штрафстаянку можна толькі тады, калі яно перашкаджае руху ці працы камунальшчыкаў, прычым даішнікі павінны спачатку паспрабаваць адшукаць уласніка машыны. Забраць эвакуяваную машыну са штрафстаянкі можна адразу, яшчэ не аплачваючы штраф.

**Падтрымка Пуціна знізілася**

У жніўні 2014 рэйтынг Пуціна дасягнуў лакальнага піку — 57%, але ўжо праз месяц, у верасні, гэты паказчык апусціўся да 49%. Гэта прыкладна адпавядае красавіцкім паказчыкам. Для параўнання, у студзені 2014 года, да змены ўлады ва Украіне, рэйтынг Уладзімір Пуціна складаў 29%. Гэта рэйтынгі з разліку «ад усіх», уключаючы тых, хто не вызначыўся. У пераразліку на тых, хто «дакладна вызначыўся» з выбарам, рэйтынг Пуціна знізіўся толькі з 87% да 81%.

**Беларусы разводзяцца радзей**

Ад пачатку года ў Беларусі зарэгістравана 65 тысяч шлюбаў і 25 тысяч разводаў (38% ад заключаных шлюбаў). Летась за аналагічны перыяд суадносіны шлюбаў і разводаў былі такімі ж. Для параўнання, за 2012 год лічба складала 51%, а ў 2001 годзе колькасць разводаў на ўзроўні колькасці заключаных шлюбаў дасягала амаль 60%.

**ЯМ, ej.by**

## Самае чытанае на nn.by за 22—28 кастрычніка

1 Філ Чмыр з Drum Ecstasy: Я ненавіджу беларускую мову

2 Скандал у Маскве: беларус згвалтаваў расійскую порназорку

3 У Мінску пасля гей-вечарыны да паўсмерці збілі маладога чалавека

4 Гісторык Алесь Краўцэвіч: Чмыр — беларускі цітушка

5 Выбары Ua: трыумф праеўрапейскіх партый, вялізны давер Яцанюку, адносная няўдача Блока Парашэнкі

6 «Беларускія казакі» на службе расійскай выведкі

7 Праваслаўная святая Соф'я Слуцкая аказалася… каталічкай

8 Мінабароны Швецыі апублікавала ФОТА падлодкі, што ўсплыла каля Стакгольма

9 Мова наша. Як па-беларуску будуць «дворнікі»?

10 Зімовыя канікулы пачнуцца раней запланаванага

# Лукашэнка: «Мне трэба дзве гадзіны, каб пачаць вольна размаўляць па-беларуску»

Кіраўнік дзяржавы правёў сустрэчу з пісьменнікамі і дзеячамі культуры.

Папярэдняе такое спатканне адбылося больш як 15 гадоў назад. Адметнасцю цяперашней сустрэчы стала прысутнасць на ёй не толькі прадстаўнікоў з дзяржаўных саюза пісьменнікаў, часопісаў і выдавецтваў, але і старшынь незалежнага СБП і ПЭН-Цэнтра Барыса Пятровіча і Андрэя Хадановіча.

Таксама на сустрэчы прысутнічалі Людміла Рублеўская, Віктар Шніп, Алесь Бадак, Адам Мальдзіс, Мікалай Чаргінец, кіраўнік Купалаўскага тэатра Мікалай Пінігін, галоўныя рэдактары «Советской Белоруссии» і «Звязды» Павел Якубовіч і Алесь Карлюкевіч. Вядома, што былі і чыноўнікі, якія так ці іначай адказваюць за галіну культуры, — Радзькоў, Тозік, Ананіч, Маскевіч, Святлоў.

«Я не пачуў чагосьці інфармацыйна новага ў выступленні нашага суразмоўцы. Аднак я ўзгадваў колішняе «хаджэнне» літаратараў да прэзідэнта ў 1997 годзе, калі ім не давалі слова, абрывалі. Таму я чакаў такі зубадрабільны атракцыён. Але на справе адчуў жаданне слухаць, натаваць. Ніхто нас не перапыняў, не размазваў па сцэны. Не магу сказаць, што ў мяне з'явіўся пэўны аптымізм, але я і не ішоў на сустрэчу з ілюзіямі сваім пяціхвілінным выступам змяніць дзяржаўную палітыку ў галіне культуры», — расказвае Андрэй Хадановіч.



Андрэй Хадановіч пытаўся пра чорныя спісы.



Барыс Пятровіч гаварыў пра патрэбу беларускамоўнай адукацыі.

Старшыня ПЭН-Цэнтра пацікавіўся «чорнымі спісамі» творцаў, якія існуюць сёння ў краіне. Ім закрыты доступ на дзяржаўныя тэлеканалы і часопісы. Не могуць яны атрымаць і вялікія памяшканні ў гарадах для сустрэч з чытачамі. Другім пытаннем Хадановіч закрануў лёс закрытага Міністэрствам інфармацыі выдавецтва «Логвінаў».

«Я не пачуў непасрэднага адказу, што «так», гэтыя спісы ёсць, ці «не» — не існуюць. У сваім адказе прэзідэнт пераключаўся на зусім іншы кантэкст і з'явы. Напрыклад, у яго ніхто не адважваўся спытаца аб лёсе Статкевіча, але суразмоўца доўга тлумачыў сваё матывы, чаму спадар Мікола застаецца ў турме. Тое самае было са смяротным пакараннем. Увогуле ж, на мае пытанні прэзідэнт адказваў амаль паўтары гадзіны. Было нават крыху няёмка перад астатнімі ўдзельнікамі сустрэчы, якія не атрымалі магчымасці выступіць.

Што тычыцца «Логвінава», то Лукашэнка ўздымаў Мікалая Чаргінца і міністарку інфармацыі Лілію Ананіч, якія цытавалі не самыя лепшыя ўзоры Ігаравай [Логвінава] выдавецкай дзейнасці».

Хадановіч у сваім выступе адзначыў, што не варта ўжываць выразы «антыдзяржаўны саюз пісьменнікаў» і «антыдзяржаўныя» творцы, а трэба казаць «незалежныя». Пасля гэтага кіраўнік дзяржавы не дазваляў сабе такіх словаў.

«Імя Святланы Алексіевіч зачапіла Аляксандра Лукашэнку за жывое. Адчувалася нейкая крыўда на спадарыню Святлану. Хаця гэта хутчэй тычылася выказванняў Алексіевіч у прэсе, а не яе твораў. Я цешу сябе ілюзіямі, што прэзідэнту ўсё ж цікавы супрацьлеглы пункт гледжання. І ён стаміўся ад аднаго фіміяму з боку літаратараў», — кажа Хадановіч.

«Былі часы, калі кіраўнік нашага саюза пісьменнікаў і нянашага, як тут прынята лічыць, імкнуліся любымі шляхамі ўпіхнуць прэзідэнту кнігу. Цяпер я гэтага не бачу. Мне робіцца жудасна. Што б вы мне цяпер ні казалі, вы мяне не пераканаеце, што ў гэтым плане вы не лайдакі», — адзначыў Лукашэнка. Ён звыкла патрабаваў ад пісьменнікаў даць новы шэдэўр узроўню «Вайны і міру» ці «Паднятай цаліны». «Купляць пісьменнікаў мы не будзем», — кажа ён.

Гэтая сустрэча планавалася яшчэ вясной, праўда, тады ў графіку кіраўніка дзяржавы не знайшлося часу. Старшыня СБП Барыс Пятровіч кажа, што таксама атрымаў магчымасць выказацца на сустрэчы.

«Я гаварыў нават не столькі пра літаратуру, колькі пра беларускую мову. Тая сітуацыя, якая зараз утварылася з беларускай мовай, не можа не выклікаць занепакоенасці.

Я выказаў спадзяванне, што школ з беларускай мовай выкладання ўсіх прадметаў паболее ў краіне. І не толькі ў вясковай мясцовасці, але і ў гарадах. Яшчэ важна, каб выпускнікі беларускамоўных школаў мелі магчымасць працягнуць адукацыю ў ВНУ па-беларуску. На сёння ж у краіне не існуе ніводнага ўніверсітэта, дзе выкладанне цалкам бы вялося на беларускай мове».

«Калі б мы адкінулі барацьбу за беларускую мову як палітычны лозунг, то разам бы маглі дасягнуць добрых вынікаў», — сказаў Пятровічу старшыня афіцыйнага саюза Мікалай Чаргінец.

Зноў Лукашэнка выказаўся аб павелічэнні колькасці гадзінаў беларускай мовы ў школах. «Кепска, што Маскевіч [міністр адукацыі — «НН»] не пабачыў, што ў чацвёртым класе [у ім якраз вучыцца Мікалай Лукашэнка — «НН»] два ўрокі беларускай, затое 6 урокаў англійскай мовы. Забыцца беларускую мов — тое, што адрознівае нас ад іншых, і тое, што нас робіць дзяржавай, — нельга. Вось чаму я звярнуўся ў дадзены момант да гэтай праблемы. Я бачу, што вымалёўваецца нейкі дысбаланс. Я стараюся чыноўнікам даць сігнал: «Нядобра гэта».

Але ці размаўляў на сустрэчы Лукашэнка сам на беларускай мове? «Так, ён ужываў яе ў размове. А яшчэ ад яго прагучала, што ён можа вольна і спакойна перайсці на беларускую мову, для гэтага яму патрэбныя дзве гадзіны паразмаўляць на ёй з суразмоўцам», — расказаў Барыс Пятровіч.

**Зміцер Панкавец**

## 2 лістапада — Дзяды

Улады дазволілі шэсце ў Курапаты.

Мінскія гарвыканкам і аблвыканкам дазволілі правесці 2 лістапада, у дзень памінання продкаў, на Дзяды, шэсце па Мінску, а таксама мітынг у месцы масавага пахавання ахвяр рэпрэсій ва ўрочышчы Курапаты.

Дзяды — гэта дні памінання продкаў. У гэты час людзі прыходзяць на магілкі, прыбіраюць, успамінаюць сваіх памерлых, а ў некаторых рэгіёнах нават ладзяць невялікі абед. У перыяд з 1991 да 1996 года 2 лістапада было афіцыйным выхадным днём.

«На шэсці прыходзяць людзі, якія памятаюць сваіх блізкіх, продкаў. Тыя, хто памятае беларускую гісторыю», — кажа намеснік старшыні КХП-БНФ Сяргей Папкоў.

**Уладзіслаў Швядовіч**



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

## Візіт у ААЭ: працоўны ці адпачынак?

У суботу дзяржаўныя інфармацыйныя агенцтвы распаўсюдзілі навіну, што Аляксандр Лукашэнка знаходзіцца з «рабочым візітам у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах».

«У ходзе візіту запланаваны перамовы кіраўніка дзяржавы з кіраўніцтвам ААЭ для абмеркавання прыярытэтных накірункаў двухбаковага супрацоўніцтва ў гандлёва-эканамічнай і крэдытна-інвестыцыйнай сферах, уключаючы перспектывы сумеснай рэалізацыі праектаў у трэціх краінах», — гаварылася ў паведамленні БелТА.

Тым не менш, першыя тры дні ніякіх звестак пра афіцыйныя сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі арабскія СМІ не давалі. Беларускія таксама адмоўчваліся.

У панядзелак вечарам з'явілася відэа гульні ў хакей каманды прэзідэнта з ветэранамі хакея ААЭ (дарэчы, хакейную зборную гэтай багатай краіны трэніруе беларус Юрый Файкоў). Каманда Лукашэнкі перамагла з лікам 13:7. Цікава, што ў матчы браў удзел малодшы сын Лукашэнкі Коля, які нават закінуў шайбу. Абодва Лукашэнкі гулялі ў чырвоных швэдрах з нумарам 1. А вось астатнія гульцы былі ў чорнай форме.




Лукашэнка і ветэраны хакея ААЭ.

Гэта другі раз, калі Колю паказваюць на хакейнай пляцоўцы. Першы раз гэта адбывалася падчас леташняга адпачынку Лукашэнкі ў Сочы.

Толькі пад канец чацвёртага дня з'явілася інфармацыя, што Лукашэнка правёў сустрэчу з прынцам эмірата Абу-Дабі, намеснікам вярхоўнакамандуючага ААЭ, шэйхам Мухамедам бен Заідам аль-Нахаянам. Што рабіў кіраўнік дзяржавы астатні час, пакуль не паведамлялася. Як і не паведамляецца, калі візіт скончыцца.

Традыцыйна Аляксандр Лукашэнка адпачывае ў верасні ў Сочы, аднак сёлета восенню ён не накіроўваўся ў Краснадарскі край. Выглядае, што візіт у ААЭ сумешчаны з адпачынкам.

**ЗП**

**Надвор'е ў Абу-Дабі**

Тэмпература паветра — +34, тэмпература вады — +29. Вільготнасць — 29%.

Як артыст Купалаўскага стаў **кіраўніком Белтэлерадыёкампаніі**.

# Князь Вітаўт з Калымы.



**Генадзь Давыдзька на з'ездзе «Белай Русі».**

PHOTO.BYMEDIA.NET

**Генадзь Давыдзька**

Нарадзіўся 29 верасня 1955 у вёсцы Папоўка Сенненскага раёна. Скончыў Далёкаўсходні педагагічны інстытут мастацтваў (1977), Беларускую акадэмію мастацтваў (1991).

Працаваў у Арэнбургскім абласным драматычным тэатры імя Горкага, Магілёўскім абласным тэатры драмы і камедыі імя Дуніна-Марцінкевіча, Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы.

У 1997—2004 — дырэктар Купалаўскага тэатра, у 2004—2012 — дэпутат палаты прадстаўнікоў. З 2010 — старшыня Белтэлерадыёкампаніі.

Жанаты, мае дачку.

Участак у сталічным раёне Вяснінка каштуе больш за паўмільёна даляраў. Разам з домам — цэлы мільён. На вуліцы Вербнай будаўнікі дакладаюць другі паверх дома. Праект незвычайны. Паколькі катэдж знаходзіцца на рагу вуліцы, робяць круглую сцяну. «А як можна гаспадара пабачыць?» — «Тэлевізар уключай, дык і ўбачыш», — смяюцца рабочыя.

Неўзабаве ў гэтым катэджы пасяліцца навaспечаны мільянер — старшыня Белтэлерадыёкампаніі Генадзь Давыдзька. Побач з ім будуецца іншы вядомы прапагандыст — кіраўнік СТБ Юрый Казіятка. Зорны час Казіяткі-прапагандыста прайшоў, а вось Давыдзька шчыруе тут і цяпер.

Уважлівыя тэлегледачы прыкмецілі, што тэма апазіцыі фактычна знікла з эфіру беларускіх дзяржаўных каналаў. Дагэтуль выкрывае ворагаў толькі сам Давыдзька ў штотыднёвым «Клубе рэдактараў». У сваёй адзінаасобнай барацьбе кіраўнік БТ выглядае абсалютна натуральна. Давыдзьку настолькі падабаецца быць у цэнтры ўвагі, што ён не чуе абсурднасці сваіх заяваў, з якіх смяецца ўвесь інтэрнэт.

Самае неадэкватнае выказванне было зроблена ў 2008-м. «Будзе значна лепш, калі тата возьме сваю дачку або сына, якому ўсяго сем гадоў (потым будзе позна), пасадзіць перад экранам тэлевізара, паставіць порнафільм і стане падрабязна тлумачыць», — раіў Давыдзька, тагачасны дэпутат, сябар камісіі па адукацыі і культуры.

«Мы ведаем вельмі многа эпізодаў, калі чалавек на выкрык «Слава Украіне!» не адказваў «Героям слава!», яго і забіць могуць», — расказваў свае фантазіі кіраўнік БТ паўмесяца таму.

«На многія бытавыя і жыццёвыя тэмы ў яго сапраўды своеасаблівы погляд. Ён шчыры і глыбокі прыхільнік цяперашняга рэжыму і нават узмацнення жорсткасці», — кажа драматург Андрэй Курэйчык, які цяпер трапіў у неафіцыйны «чорны спіс» на БТ.

«Давыдзька быў цікавым акцёрам, але чыноўнік у ім усё ж быў мацнейшым. І перамог артыста», — мяркуе Курэйчык.

«Наша Ніва» расказвае гісторыю шляху ва ўладу Генадзя Давыдзькі.

## Аднаго дзеда забілі партызаны, другога — рэпрэсавалі

У сваіх інтэрв'ю Давыдзька неаднаразова пераказваў трагічную гісторыю сям'і.



KOMKUR.INFO

**Генадзь з бацькамі і сястрой.**

Дзед па бацькавай лініі, Франц Адамавіч Давыдзька, быў хутаранінам. Пасля яго загналі ў калгас. Нацярпеўся ён ад немцаў. Тыя даведаліся, што ягоныя старэйшыя сыны партызаняць. «Катавалі, білі, цкавалі сабакамі, пакінулі паміраць, але ён ачуняў — сям'ю ж карміць трэба», — расказваў Генадзь.

А калі Франц Адамавіч вяртаўся з Сянна ў родную вёску Папоўку з ежай, яго абрабавалі і збілі партызаны. Ён памёр на наступны дзень.

Гісторыя іншага дзеда, Андрэя Баранпікава, таксама адпавядала рэаліям часу. Ён, цясляр з Разанскай вобласці, прабіўся ў Маскву і стаў працаваць у НКВД. Сістэма адыгралася на ім — у 1938 годзе яго рэпрэсавалі і выслалі на ртутныя рудні на Калыму. Жонцы Вользе з малымі дзецьмі давялося вяртацца на сваю радзіму, у тую ж Папоўку. Тут яна зноў узяла шлюб, але другі муж загінуў у пачатку вайны.

Цікава, што ў пашпарце дачку Вольгі і «ворага народа» Андрэя запісалі Таісіяй Рыгораўнай. Дзяўчына паступіла ў Віцебскае фармацэўтычнае вучылішча і стала оптыкам. А пасля выйшла замуж за земляка. Браніслаў, малодшы сын Франца Давыдзькі, быў маракам.

## Гендос і ягоны сябар Тарас Шаўчэнка

У верасні 1955 года ў маладой сям'і нарадзіўся першынец — Генадзь. Пасля смерці Сталіна і дзед на Калыме быў рэабілітаваны. Ён вырашыў застацца ў Магаданскай вобласці. А неўзабаве паклікаў да сябе жонку і дачку з зяцем. Нягледзячы на складаныя кліматычныя ўмовы, там можна было зарабіць неблагія грошы.

У 1960 годзе сям'я Давыдзькаў выправілася ў далёкае падарожжа. Маленькі пасёлак Сеймчан на беразе Калымы — гэта больш за 6 тысяч кіламетраў ад дома.

Пра кватэры размовы не ішло, сем'і жылі ў бараках. Браніслаў Давыдзька быў дальнабойшчыкам, а Таісія працавала ў бальніцы. Ну а Генадзя аддалі ў Сеймчанскую школу-інтэрнат. З бацькамі ён бачыўся толькі па выходных.

Праз некалькі гадоў у сям'і нарадзілася дачка Ларыса. Цяпер яна жыве ў расійскім Тальяці, працуе на радыё.

«У школе мяне называлі Гендос. І яшчэ Гваздзём, бо я быў вельмі худым і доўгім, — расказваў артыст. — Адзін хлапчук мяне ўвесь час крыўдзіў. Дарэчы, яго звалі Тарас Шаўчэнка. Ён увесь час біў мяне ў жывот і ўсё адбіраў. А потым неяк за лета я раптам моцна вырас. Падышоў Тарас, паглядзеў на мяне, і мы сталі неразлучнымі сябрамі, як гэта бывае, дружбакамі. Яшчэ я быў у класе клоўнам, завадатарам, які заўсёды жартуе, весяліцца».

У вольны час Генадзь гуляў у футбол, а яшчэ цікавіўся літаратурай. «Калі мне было 12 гадоў, я вырашыў самаадукоўвацца: пайшоў у дарослую бібліятэку і ўзяўся чытаць усю літаратуру, пачаў з аўтара на літару «А» і дайшоў да «С» — апошні быў Сервантэс. Так што да Чэхава і Шэкспіра не дайшоў», — жартуе Давыдзька.

Жыццё ў Магаданскай вобласці зрабіла з хлопца адданага патрыёта Беларусі. На радзіму ён прыязджаў летам, і гэтага было дастаткова, каб марыць пра вяртанне. «Для мяне Беларусь была раем. Я здзіўляўся, што яблыкі так папросту растуць на дрэвах. Звон царкоўных званоў, пах паравознага дыму, цёплая вада ў возеры — усё гэта мяне прыводзіла ў захапленне, бо нічога падобнага на Калыме не было. Я ўсё дзяцінства марыў жыць у Беларусі, у гэтым раі».

## Шлях да Купалаўскага

Са школы-інтэрната Генадзь выйшаў кваліфікаваным трактарыстам. Хлопец марыў стаць археолагам, але захапіўся гітарай і вырашыў вучыцца на музыканта. «Увогуле, у мяне не аналітычны склад розуму. Я чалавек імправізацыі, аўралу, не ўмею быць паслядоўным», — прызнаваўся ён. Так і адбылося.

Генадзь паступіў у Хабараўскі інстытут культуры па класе домры (бо на гітару не набіралі), адвучыўся семестр, перавёўся на тэатральнае аддзяленне. А пасля першага курса кінуў вучобу. Генадзь меўся перапаступаць у Маскву, але прагуляў адкладзеныя грошы і да сталіцы не даехаў. У выніку апынуўся ва Уладзівастоку, на акцёрскім факультэце Далёкаўсходняга педагагічнага інстытута мастацтваў.

Тут Давыдзька знайшоў сваё каханне. Наталля Мотлах была ягонай аднакурсніцай. Яна, дарэчы, скончыла інстытут з чырвоным дыпломам.

Пару маладых размеркавалі ў тэатр у Арэнбургу, на мяжу з Казахстанам. Неўзабаве Генадзя забралі ў войска.

Тым часам з Калымы ў Беларусь вярнуліся бацькі Давыдзькі. Яны пасяліліся ў Бабруйску. Пасля службы ў войску сын з жонкай пераехалі да іх.

Маладыя артысты ўладкаваліся ў мясцовы Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі імя Дуніна-Марцінкевіча. Аднак Генадзь марыў зрабіць кар'еру ў Маскве. Не ўдалося. Уладкаваўшыся ў адзін са сталічных тэатраў, ён на навагоднія святы сарваў голас. Лячыць без прапіскі яго не сталі, таму давялося вяртацца ў Беларусь. Цяпер ужо канчаткова.

У Мінску ўдалося знайсці працу, прычым не абы-якую — маладога артыста ўзялі ў Купалаўскі. «Мой самы шчаслівы дзень у жыцці — 23 снежня 1981. Тады я ўпершыню як акцёр паказваўся ў тэатры Янкі Купалы перад мастацкай радай, і мяне прынялі», — расказваў Давыдзька.

«Калі трапіў у Купалаўскі, улюбіўся адразу ж: у трупу, тэатр, атмасферу, адчуў, што я сапраўдны беларус», — прызнаваўся ён.

Для працы ў тэатры давялося з нуля вучыць беларускую мову. І ёй Давыдзька авалодаў выдатна.

## Артыст, рэжысёр, дырэктар

Напярэдадні прэм'еры «Тутэйшых» у 1990 годзе Давыдзька дэманстратыўна выйшаў з кампартыі разам з некалькімі калегамі-купалаўцамі. Незалежнасць Беларусі ён сустрэў не толькі артыстам, але і рэжысёрам, скончыўшы Акадэмію мастацтваў па спецыяльнасці «рэжысура драмы».

Тэатразнаўцы скептычна ставяцца да ягоных уласных пастановак, а вось некаторыя ролі Давыдзькі добра запомніліся гледачам.



ODNOKLASSNIKI.COM

**Наталля Мотлах займаецца выкладчыцкай дзейнасцю. Калі муж адкрываў уласныя праекты — тэатр сатыры і гумару «Бульвар смеху» і дзіцячы тэатр «Гоша» — клікаў іграць і жонку-актрысу.**



ODNOKLASSNIKI.COM

**Адзіная дачка Яніна скончыла БНТУ і цяпер працуе ў «Мінскпраекце». Разам з мужам яна прыхільніца альтэрнатыўнай музыкі. У сям'і падрастае маленькі сын Артур.**

# Гісторыя поспеху Генадзя Давыдзькі

**Чалавек-хамелеон**

Навыкі артыста Давыдзька выкарыстоўваў не раз і ў палітыцы. Дзе ён шчыры, а дзе хлусіць? Параўнайце заявы на тэмы беларуска-расійскіх адносінаў.

«Лёсы нашых народаў пераплецены настолькі цесна, што ўжо больш не бывае — на крэўным, сямейным узроўні. Таму мы ніколі не будзем чужымі. … У братэрскай дзяржаве настолькі добрыя адносіны да нас, беларусаў, што пра гэта нават казаць лішне», — казаў Давыдзька ў 2009-м.

«Гістарычна Расійская Імперыя заўсёды думала глабальна, каб як мага больш захапіць тэрыторый, далучыць да сябе … Гэты вялікадзяржаўны шавінізм, які прысутнічаў і прысутнічае ў любым, нават самым маленькім чалавеку-расіяніне, не можа прызнаць, што Беларусь — гэта абсалютна самастойная, незалежная дзяржава», — гэта таксама словы Давыдзькі, але прамоўленыя ўжо ў 2010-м, калі Расія на чале з Дзмітрыем Мядзведзевым пачала інфармацыйную вайну супраць Лукашэнкі.

«Саюз дзвюх дзяржаў, двух брацкіх народаў з'яўляецца адным з безумоўных дасягненняў на постсавецкай прасторы. Бо адносіны беларускага і расійскага народаў, нашы лёсы пераплеценыя, перамяшаныя, павязаныя гэтак непарыўна, як, напэўна, наогул не перасякаліся лёсы аніякіх іншых народаў ва ўсёй сусветнай гісторыі», — а гэта ён жа ў 2012-м, калі расійскія і беларускія ўлады памірыліся.

Што застаецца нязменным, дык гэта словы аддансі Аляксандру Лукашэнку.

«Існуе паняцце каманды, абоймы, у якую ўваходзяць людзі прэзідэнта. Я — адзін з такіх людзей», — пераконвае Давыдзька.

Яго галоўнай роляй стаў князь Вітаўт у аднайменным спектаклі Валерыя Раеўскага.

Па словах самога артыста, гэты вобраз быў найбольш блізкі яму як чалавеку і грамадзяніну. «Гэты спектакль выхоўваў гонар за сваю гісторыю», — казаў Давыдзька.

Сярод знакавых роляў і ўсходні вучоны ў «Тутэйшых». «Гэтая п'еса актуальная і па сёння. Гэта вечная тэма для нас, беларусаў. Я больш аддаю перавагу слову «ліцвіны». Надзвычай важнае выхаванне нацыянальнай самасвядомасці, патрыятызму праз павагу да роднай мовы, нацыянальнай гісторыі, дзяржавы», — разважаў артыст.

А ў 1997 годзе яго прызначылі дырэктарам Купалаўскага. Давыдзька патроху адыходзіў ад творчасці і браў на сябе адміністратыўныя функцыі.

Менавіта пры ім з рэпертуару знялі «Тутэйшых», якіх ён раней так хваліў. Нібыта праз састарэласць дэкарацый. «Гэта хлусня», — каментаваў сітуацыю рэжысёр спектакля Мікалай Пінігін.

### Тэледэбют

А Давыдзька тым часам асвойваў тэлеэфір. Ягоным дэбютам стала праграма «Гурман-клуб», якую на мяжы стагоддзяў паказваў 8 канал.

«Пуцёўку ў тэлевізійнае жыццё Давыдзьку выпісаў я, — расказвае Аляксандр Зімоўскі, які ў пачатку 2000-х быў дырэктарам Сталічнага тэлебачання. — У 2003-м наверсе нарадзілася ідэя зняць «дыхтоўны, душэўны, некандовы дакументальны фільм» (я цытую заданне) пра Беларусь у 1994—2004 гадах».



Будоўля катэджа ў Вяснінцы ідзе поўным ходам.

ЯГОР МАРЦІНОВІЧ

Аляксандр Лукашэнка тады рыхтаваўся да рэферэндуму аб праве ісці на трэці тэрмін. Паводле словаў Зімоўскага, праекты «Беларусьфільма», БТ і АНТ былі адхіленыя, і за здымкі ўзяўся ён.

«Расказчыкам я выбраў Давыдзьку, ён фактурны быў, якраз для гэтага праекта, добра ў кадры глядзеўся дзе-небудзь на дняпроўскіх кручах. Дый голас такі душэўны, аксамітны... — узгадвае Зімоўскі. — Знялі дакументальны фільм, назвалі «Суверэнная Беларусь. Імгненне часу». АНТ і БТ прымусілі паказаць у прайм-тайм наш праект. А Генадзя заўважылі, ацанілі і ўключылі ў абойму».

У 2006, калі Зімоўскага павысілі да кіраўнікоў БТ, ён зацвердзіў Давыдзьку вядучым у праграму «Белорусское времечко» — штодзённыя народныя навіны і разбор скаргаў у жывым эфіры.

### У дэпутацкім крэсле

Падчас працы ў «Времечке» Давыдзька ўжо быў дэпутатам. У 2004-м ён ішоў на выбары ў якасці ўладнага кандыдата. Збор подпісаў за Давыдзьку быў азмрочаны некалькімі скандаламі. А галоўную суперніцу, прадстаўніцу АГП Валянціну Палевікову, знялі яшчэ да галасавання. Давыдзька «атрымаў» 56,6% галасоў.

Чым Давыдзька запомніўся, дык гэта сваёй дэкларацыяй аб даходах. У 2003-м сярэдні заробак у беларусаў складаў каля $120. А дырэктар Купалаўскага задэклараваў сярэдні месячны даход памерам... $1065. Вядома ж, улічваўся не толькі заробак, але і, напрыклад, ганарары за здымкі ў кіно.

**Пра конкурсы прыгажосці**

«У мяне іншае, адрознае ад міжнароднага, разуменне прыгажосці. Я не супраць 90-60-90, але мне больш падабаецца, скажам, 120-80-140. Але такіх не пускаюць на конкурсы прыгажосці! Гэта як пракрустава ложа, у якое спрабуюць уціснуць жанчыну». — «А сваю спадарожніцу жыцця вы выбралі ў адпаведнасці са сваім стандартам?» — «Зразумела!»

У якасці дэпутата Давыдзька заклікаў да... легалізацыі прастытуцыі. Праўда, аднадумцаў у парламенце ён так і не знайшоў.

Быўшы дырэктарам тэатра, ён лабіраваў увядзенне кантролю за пастаноўкамі заезджых калектываў. Урад прыняў адпаведную пастанову. Але яна аказалася няправільнай. І Давыдзькадэпутат пачаў з ёй... змагацца. «Аказалася цалкам знішчанай беларуская недзяржаўная тэатральная ініцыятыва. Загінулі ўсе антрэпрызы», — наракаў ён.

У 2008-м Давыдзька пайшоў на другі тэрмін. Ягоны «вынік» на выбарах быў такім самым — 56%. Дэпутаты, якія пераабіраліся ў тым годзе, у сярэднім дэкларавалі больш за $1600 месячнага даходу за працу ў парламенце (сярэдні заробак у краіне тады быў каля 350 даляраў).

Паводле закона, дэпутат палаты прадстаўнікоў выконвае свае абавязкі на прафесійнай аснове. Гэта значыцца, што не можа працаваць нідзе, апроч парламента. Выключэнне зробленае толькі для навуковай ці творчай дзейнасці. Давыдзька апошнія гады дэпутацтва ў парушэнне закона стаў яшчэ і кіраўніком Белтэлерадыёкампаніі, змяніўшы на гэтай пасадзе Зімоўскага.

Некалькі гадоў Давыдзьку называлі кандыдатам на пасаду міністра культуры, але апынуўся на чале тэлебачання. «Так вырашыў кіраўнік дзяржавы. Я магу толькі выказаць здагадку: магчыма, маё прызначэнне было звязана з тым, што Аляксандр Рыгоравіч больш бачыў ува мне менеджара, ідэолага, грамадскага дзеяча, чым дзеяча мастацтва», — разважаў ён.



ЯГОР МАРЦІНОВІЧ

Паводле шлюбнай дамовы, трохпакаёўка ў доме каля «Белай вежы» належыць жонцы, а не Давыдзьку.



GOALS.BY

Працоўны кабінет кіраўніка БТ.

### Жалезам па сяброўстве

Першым жа праектам новы тэлекіраўнік ушчэнт запляміў сябе. Выкрывальніцкі фільм «Плошча. Жалезам па шкле» агучваў асабіста Давыдзька. «Альтэрнатыва ад апазіцыі — гэта гвалт, пагромы і кроў. Гэта не палітычная барацьба — гэта заяўка на дзяржаўны пераварот», — падсумоўваў ягоны голас. Адметна, што фільм быў цалкам ананімным, імя дыктара на экране так і не з'явілася. Але ж пазналі.

Калісьці Давыдзька і паэт Уладзімір Някляеў былі сябрамі. Але палітычныя рэаліі развялі іх па розныя бакі барыкадаў. Калі Някляеў спрабаваў прайсці на Усебеларускі народны сход, Давыдзька зрабіў выгляд, што не знаёмы з ім. А пасля было яшчэ і «Жалезам па шкле»...

Някляеў кажа, што выкрасліў Давыдзьку са сваёй памяці: «Гэта пластылінавы чалавек, якога ляпілі ў розных кабінетах».

«Чаго нельга прабачаць нават лепшым сябрам? Здрады. Як пагубіць можа толькі жывое, так і здрадзіць можа толькі лепшы сябар. І гэта самае страшнае», — разважаў сам Давыдзька.

### Рэфарматар БТ

Сваю дзейнасць на чале Белтэлерадыёкампаніі Давыдзька называе антыкрызісным кіраваннем: «Я пераняў разам з кампаніяй яе велізарныя даўгі — 8 мільёнаў еўра. Нам давялося сціснуць штат супрацоўнікаў на 31%».

Зімоўскі пярэчыць яму: «Гэта няпраўда. БТ ні разу не брала банкаўскіх крэдытаў, адпаведна, не магло мець даўгоў. Што да эканамічнага становішча ў цэлым, то ў 2010-м БТ кантралявала каля 35% тэлевізійнага рэкламнага рынку Беларусі. Даходы ад рэкламы склалі каля $22 мільёнаў! Гэта быў самы высокі ўзровень даходаў за ўсю гісторыю кампаніі. Сярэдні заробак на канец 2010-га быў дзесьці $710—730».

Да дасягненняў Давыдзькі адносяць пашыранне медыяхолдынгу. «Беларусь-3» ствараўся як цалкам беларускамоўны канал. Але задуму да канца так і не рэалізавалі, бо сродкаў на стварэнне ўласнага кантэнту і дубляж фільмаў на беларускую мову не выдзялялася. «Беларусь-5» стаў спартыўным каналам, а «Беларусь-24» — спадарожнікавым люстэркам БТ для замежнага гледача.

Іншыя змены датычаць працы з рэкламай. Цяпер час у эфіры Белтэлерадыёкампаніі прадае кампанія «Алькасар», звязаная з «Газпрамам». Давыдзька запэўніваў, што гэта прывядзе да росту рэкламных даходаў.

А ягоны асабісты даход быў узняты спецыяльным указам Лукашэнкі. Яшчэ з канца 1990-х кіраўніку БТ выплачваецца штомесячная прэмія ў памеры службовага аклада. У 2012-м гэтая прэмія павялічылася ўдвая.

Па словах Зімоўскага, на момант ягонага сыходу заробак старшыні Белтэлерадыёкампаніі даходзіў да 5 мільёнаў рублёў. Гэта каля $1600.

### Невыязны прапагандыст

Давыдзька не пакідае і творчую кар'еру. Ён прадзюсіруе фільмы (камедыя «Скрасці Бельмандо» пра жыццё ў аграгарадку) і сам здымаецца ў кіно, цяпер пераважна ў другасных ролях ці ў расійскіх серыялах.

Ну і, вядома ж, працягвае самарэалізоўвацца ў «Клубе рэдактараў». Праўда, іншы заўсёднік праграмы, рэдактар «Савецкай Беларусіі» Павел Якубовіч, змякчае акцэнты Давыдзькі.

Высокая пасада адкрыла перад Давыдзькам вялікія магчымасці, але закрыла выезд у Еўрасаюз. Ён апынуўся сярод дзясятка журналістаў-прапагандыстаў, якія трапілі ў «чорны спіс» за ціск на свабоду слова. «Вялікі гонар быць сярод сапраўдных барацьбітоў за незалежнасць Беларусі», — адгукнуўся Давыдзька.

**Ягор Марціновіч**

# Слесар з калгаса «Расія» ўзначаліў прафсаюзы

Пяць фактаў пра Міхаіла Орду.

Новым кіраўніком Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі стаў былы лідар БРСМ Міхаіл Орда. Ранейшы галоўны прафсаюзнік, Леанід Козік, сам папрасіўся ў адстаўку.

**1. Слесар, ветэрынар, дэпутат**

Міхаілу Орду 48 гадоў. Ён нарадзіўся ў Дзятлаве. А першым месцам працы быў калгас «Расія» ў Дзятлаўскім раёне (СПК з такой назвай існуе па сённяшні дзень), дзе Орда быў слесарам. Скончыў новы кіраўнік прафсаюзаў Віцебскі ветэрынарны інстытут, а таксама Расійскую акадэмію кіравання пры прэзідэнце Расіі.

У 2003 годзе Міхаіл Орда ўзначаліў Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі — адну з самых масавых арганізацый у краіне. Аднак добра вядома, як ствараецца гэтая масавасць. Студэнты ўступалі ў шэрагі БРСМ у прымусова-добраахвотным парадку. Інакш яны маглі не атрымаць месца ў інтэрнаце ці мець праблемы з размеркаваннем. Абы адчапіліся.

Таксама Орда двойчы быў дэпутатам палаты прадстаўнікоў. Спачатку ў 2000 годзе ён быў «абраны» ад Лідскай сельскай акругі. А ў 2008 — па Дзятлаўскай.

**2. Праціўнік карты паляка**

У час працы Міхаіла Орды ў палаце прадстаўнікоў ён патрабаваў правесці прававую ацэнку па карце паляка. На ягоную думку, выдача карты паляка «нараджае недавер і ўносіць разлад між людзьмі». «Польская дзяржава бярэ на сябе права дзяліць беларусаў на тых, хто варты права атрымаць карту і хто не варты».

Увогуле, трэба сказаць, што ў сваёй ідэалагічнай выверанасці Міхаіл Орда не даў засумнявацца ніводнага разу. Трэба раскрытыкаваць Еўрасаюз — Орда не адмаўляў, Амерыку — таксама. «Еўрасаюз бярэ на сябе ролю сусветнага дыктатара, і гэта стала магчымым таму, што не існуе супрацьвагі, якой раней быў Савецкі Саюз», — казаў ён.


BUDZMA.ORG

**3. Хунвэйбіны Орды**

Пад кіраўніцтвам Міхаіла Орды ў БРСМ неаднаразова праходзілі пікетаванні пасольстваў заходніх краін. Адбывалася гэта падчас польска-беларускага дыпламатычнага крызісу ў 2005, пасля прэзідэнцкіх выбараў 2006 года. Кандыдата ад апазіцыі на прэзідэнцкіх выбарах-2006 Аляксандра Мілінкевіча «бээрэсэмаўцы» праводзілі на вакзале з мётламі, каб ён «вымятаўся» з краіны.

Фактычна, пры Ордзе БРСМ выконваў працу кітайскіх хунвейбінаў часоў «культурнай рэвалюцыі». Пры наступных старшынях гэтакая псеўдаактыўнасць заўважна зменшылася.

Пакінуў БРСМ Орда ў 39-гадовым узросце. Мабыць, працягваць заставацца «моладзевым лідарам» ужо не выпадала.

**4. Чорны спіс**

Не выпадкова, што такой сваёй актыўнасцю Міхаіл Орда заслужыў права ўваходзіць у спіс беларускіх чыноўнікаў, неўязных на тэрыторыю Еўрасаюза. У 2011 годзе Польшча адмовіла яму і старшыні афіцыйнага Саюза пісьменнікаў Мікалаю Чаргінцу ў выдачы віз для наведання пахавання скандальнага лідара партыі «Самаабарона» Анджэя Лепера.

**5. Праца з заслужанымі пенсіянерамі**

Хоць Міхаіл Орда і адданы працаўнік, але да высокіх пасадаў ва ўрадзе ці Адміністрацыі прэзідэнта, дзе прымаюцца важныя рашэнні, ён так і не даслужыўся. Апошняй ягонай працай была ціхая і няпыльная пасада ў пастаянным прадстаўніцтве саюзнай дзяржавы ў Мінску. Туды часцей адпраўляюць заслужаных пенсіянераў, як былых міністраў унутраных справаў Анатоля Куляшова, па падатках і зборах Ганну Дзейку, кіраўніка прэзідэнцкай канцылярыі Уладзіміра Мацвейчука, віцэ-прэм'ера Івана Бамбізу.

Дарэчы, у БРСМ Орда меў вельмі выразную мянушку. Яна складалася з першай літары ягонага імя і ўсяго прозвішча.

**Зміцер Панкавец**

# «Я ненавіджу беларускую мову»

Дзіўнае прызнанне зрабіў лідар гурту Drum Ecstasy.

Музыкант Філіп Чмыр (гэта сапраўднае прозвішча, а не псеўданім) напісаў на сваёй старонцы ў Facebook: «Я ненавижу беларускии язык, как все что мне навязывают» (правапіс арыгіналу захаваны), а потым дадаў ніжэй: «Мозг выкідае ўсё тое, чым мы не карыстаемся. Доінаэптакорд мне больш патрэбны, чым Беларусі, і тое забыты. І яго не навязваюць, што важна... Я мінчанін, а ў нас у горадзе, калькі я сябе памятаю, гаварылі парускую ўсе, акром настаўнікаў беларускай мовы, і тое, толькі на ўроках. Нават на пісьменніцкіх дачах класікі бел.літ размаўлялі па-расійску з расійскамоўнымі, напэўна, былі інтэлігентнымі людзьмі» (пераклад на беларускую).

Абурэнне Чмыра было выклікана тым, што подпісы на адной з выставаў у Мінску былі зробленыя толькі па-беларуску і па-англійску. Тым самым, маўляў, былі парушаныя ягоныя канстытуцыйныя правы.

Пасля масавага абурэння Філіп Чмыр выдаліў сваё паведамленне з сацыяльных сетак.

Музыкант і раней заяўляў пра сваё непрыманне беларускай мовы. Ён адзначаў, што ненавідзіць нацыянальную ідэю і людзей, якія яе прасоўваюць.



**Чмыр — беларускі цітушка**

«Чмыр» — гэта не чалавек, чмыр — гэта з'ява. Сутнасць з'явы — агрэсіўная нянавісць да беларускасці і беларускай мовы, у прыватнасці.

Тыпалагічная характарыстыка чмыра:

— чмыр неадукаваны (пісаць без памылак не ўмее, гісторыі не ведае);

— чмыр не адчувае сябе часткай народа, сярод якога пражывае (вы не ўбачыце яго на магілах продкаў — іх няма);

— чмыр па прычыне няведання гісторыі і недахопу інтэлекту не здагадваецца, што ён тыповы прадукт навязанай асіміляцыі («не люблю ўсё, што мне навязваюць»);

— чмыр мае вялікія амбіцыі, вяршыня якіх — грошы (калі б на белмове можна было «закасіць бабло» — усё б гучала інакш);

Увогуле, чмыр — чалавек, які мае простыя чалавечыя жаданні — грошай і славы. У першым мы яму наўрад ці дапаможам, а вось праславіць — рэальна. Як цітушку ва Украіне.

**Алесь Краўцэвіч, доктар гістарычных навук, Гродна**

# Сын Козіка сышоў з працы ўслед за бацькам

Менш чым праз месяц пасля адстаўкі Леаніда Козіка з пасады кіраўніка прафсаюзаў працу згубіў і ягоны сын Андрэй. Ён быў першым прарэктарам Міжнароднага ўніверсітэта МІТСО (у савецкія часы — Вышэйшая школа прафсаюзнага руху). Козік-малодшы спецыялізуецца на міжнародным праве. Калісьці ён судзіўся з сайтам Аб'яднанай грамадзянскай партыі.


PROF-PRESS.BY

На месца Козіка перайшоў дырэктар Інстытута павышэння кваліфікацыі МІТСО Генадзь Падгорны. Раней ён кіраваў Фондам дзяржаўнай маёмасці Міністэрства эканомікі, а пасля ўзначальваў кампанію. мабільнага апаратара «Дыялог».

Універсітэтам кіруе былы першы намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта генерал-маёр КДБ Станіслаў Князеў.

МІТСО стаў першым беларускім універсітэтам, які ажыццяўляе абмен студэнтаў у рамках Балонскага працэсу. Некалькі студэнтаў-украінцаў праходзілі практыку ў Беларусі.

**ЯМ**

# Тур і Песціс просяцца ў Акадэмію навук

У сярэдзіне лістапада ў Нацыянальнай акадэміі навук адбудуцца выбары акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў. Аляксандр Лукашэнка непрыхільна ставіцца да навуковай кар'еры чыноўнікаў. Абарону дысертацый і атрыманне ступеняў яны адкладаюць на час пасля адстаўкі з дзяржаўнай службы.

Сярод вядомых імёнаў у спісе кандыдатаў на вакансію акадэміка — былы рэктар Гродзенскага дзяржаўнага аграрнага ўніверсітэта Вітольд Песціс. Ягоная спецыялізацыя — сельская гаспадарка, у прыватнасці, яго цікавіць тэма выкарыстання адкладанняў на дне вадаёмаў пры кармленні скаціны. Песціс тройчы быў членам савета рэспублікі. Ад 2000 да 2012 ён засядаў у камісіі па... міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы.

З цяперашніх акадэмікаў (іх каля 75) палітыкай займаецца спікер савета рэспублікі, лазерны фізік Анатоль Рубінаў.

У члены-карэспандэнты па спецыяльнасці «прагназаванне і рэгуляванне знешнегандлёвай дзейнасці» мецяць былы намеснік міністра эканомікі і намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Андрэй Тур. Год таму ён сышоў з чыноўніцкай пасады пасля разносу на «Барысаўдрэве» і сканцэнтраваўся на выкладчыцкай дзейнасці.

Сярод дзейных членаў-карэспандэнтаў (агулам іх больш за 110 чалавек) — прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч, а таксама былы старшыня Вярхоўнага Савета Станіслаў Шушкевіч.

**Ягор Марціновіч**

# Для ахоўнікаў Лукашэнкі пабудавалі асобны дом

Сілавікі па-ранейшаму будуюцца пад 5% гадавых?

У адным з дамоў па вуліцы Тышкевічаў у сталічным раёне Міхалова ключы ад новых кватэр атрымалі работнікі службы аховы прэзідэнта. Панэльны 10-павярховік быў пабудаваны МАПІДам і здадзены ў запланаваныя тэрміны.

На ўрачыстай цырымоніі выступіў сам Аляксандр Лукашэнка.

Гэта не першы дом для службы аховы. Раней работнікаў рассялялі ў навабуды на вуліцах Нёманскай і Скрыпнікава.

На якіх умовах атрымліваюць кватэры беларускія сілавікі? У іх дачыненні дзейнічае ўказ «Аб некаторых сацыяльна-прававых гарантыях для ваеннаслужачых, суддзяў і пракурорскіх работнікаў», прыняты ў 2008 годзе. Паводле яго, стаўка крэдыту для іх складае 5% гадавых, а ў малых гарадах — усяго 3% гадавых.

Напрыклад, сталічныя амапаўцы сёлета засялілі дом на вуліцы Шугаева ва Уруччы. Мясцовыя жыхары выступалі катэгарычна супраць ушчыльнення, аднак адступілі пасля затрымання сваіх завадатараў. Больш за 70 удзельнікаў жыллёвага кааператыва «Уручча-1» атрымалі льготныя крэдыты. Іх памер дасягаў $50 тысяч на сям'ю. Вяртанне грошай расцягнецца на бліжэйшыя 20 гадоў.

**ЯМ**

Гісторыя **забароненага кахання** скончылася трагедыяй.

# У цыганскай сям'і браты не падзялілі жанчыну

Раніцай 17 кастрычніка ў лесе на ўскрайку Жлобіна былі знойдзены абгарэлыя «Жыгулі». Калі зазірнулі ўнутр — убачылі яшчэ і трупы. Пачалі разбірацца, высветлілі, што загінула цэлая сям'я: 53-гадовы гаспадар, 49-гадовая гаспадыня і іх 29-гадовы сын. Цыганская сям'я, хоць жанчына і была беларускай. А клубок прывёў да малодшага сына і нявесткі. Пад адным дахам узнік любоўны трохкутнік.

Старэйшы сын Мікалай закахаўся ў Рубіну, калі яна была зусім юнай — мела толькі 14 гадоў. Але цыганская кіпучая кроў у хлопца прагнула кахання. Сышліся, дзяўчына зацяжарыла. І нарадзіла яна хлопчыка. Ішоў час. Ажаніўся і малодшы сын Аляксандра (імя гучыць менавіта так). Праўда, сямейнае жыццё не склалася — разышоўся. Узніклі ж сімпатыі да братавай — жылі ўсе пад адным дахам. Тут бы маладой маці стрымаць памкненні дзевера, а яна толькі накаліла сітуацыю: адказала ўзаемнасцю. Пачалі таемна сустракацца. Толькі ў адным доме нават самае патаемнае не схаваеш — сямейнікі здагадаліся. І пачаліся скандалы.

Тады каханкі і пайшлі на самае страшнае — прыбраць з дарогі Мікалая. Прыдумалі план. У катлеты падмяшалі снатворнае (дрыму), каб усыпіць сям'ю, а ўжо ў сне забіць. Праўда, ці то са-маробнае снатворнае аказалася неэфектыўным, ці то катлеты ніхто не з'еў, план праваліўся. Але адступаць не збіраліся. Рубіну нават не стрымлівала, што ў яе нядаўна нарадзілася дачка.

Па інфармацыі Следчага камітэта, забівалі сям'ю ў двары дома: білі палкай і нажом. Трупы пагрузілі ў «Жыгулі» і вывезлі ў лес. А там ужо падпалілі машыну.


Аляксандр пайшоў супраць брата.

Калі парачку западозрылі і прывезлі ў міліцыю, яны працягвалі паказваць, што агаломшаны такім горам. Аднак выкруціцца не змаглі.

«Дзякуючы зладжаным дзеянням праваахоўнікаў, падазраваныя былі затрыманыя цягам сутак. Па крымінальнай справе следчымі знойдзены і канфіскаваны прылады злачынства, з удзелам затрыманых праведзены праверкі паказанняў на месцы. Прызначана больш за 10 судовых экспертыз. Сабраныя доказы дазволілі прад'явіць удзельнікам забойства абвінавачанне па ч. 2. арт. 139 КК (забойства трох асоб)», — адзначылі ў Следчым камітэце.

За такое злачынства прадугледжваецца самае суровае пакаранне — да расстрэлу. Праўда, у Беларусі ў дачыненні да жанчын найвышэйшая мера не ўжываецца. Мінімальная планка — 8 гадоў калоніі. Але гэта будзе вызначаць суд. А ўжо цяпер органам апекі давядзецца вырашаць лёс 6-гадовага Данілы і 7-месячнай Саміры. Пакуль дзяцей Мікалая і Рубіны да сябе забралі сваякі.

**Кастусь Матушыч**


Рубіна цяпер знаходзіцца ў ізалятары, а Даніла — у сваякоў.

**Забілі дачку цыганскага барона**

У Жлобіне трагедыя з удзелам цыганоў не першая. Так, у 2007 да пажыццёвага зняволення асудзілі 24-гадовага гараджаніна за забойства сям'і. За саўдзел два чалавекі атрымалі па тры гады калоніі.

На судзе высветлілася, што прычынай агрэсіі стала асабістая непрыязнасць. Хлопец канфліктаваў з сям'ёй цыганоў. І калі быў нападпітку, успомніў крыўду — і кінуўся помсціць. Дзверы дома былі не замкнёныя. Ён ва ўпор расстраляў гаспадыню, дачку мясцовага цыганскага барона, і яе мужа. Іх 17-гадовая дачка, калі пачула стрэлы, паспела выскачыць праз акно. Хаця стралялі і ёй наўздагон. На шчасце, нападнік прамазаў.

## Сочынцаў пакінулі ў беларускай турме

**Разблыталася справа**, якая цягнулася амаль два гады.

Па справе праходзілі трое: былы дырэктар санаторыя «Беларусь» у Сочы Георгій Саракашыш, яго намеснік Аляксандр Кізім і гендырэктар расійскай фінансавабудаўнічай групы «Карпарацыя» Андрэй Меранкоў. Кізім — грамадзянін Беларусі, астатнія — з расійскімі пашпартамі.

Іх судзілі за крадзеж шляхам злоўжывання службовымі паўнамоцтвамі групай асоб па папярэдняй змове. Па інфармацыі «Ежедневніка», нанесеную шкоду ацанілі ў 22 мільярды беларускіх рублёў (каля 2 мільёнаў даляраў). А грошы «распілавалі» падчас разбудовы «Беларусі» перад сочынскай зімовай Алімпіядай-2014.



Кізім і Меранкоў па рашэнні суда адпраўляцца за краты на 9 гадоў, Саракашыш — на 6. І павінны сплаціць тыя 2 мільёны даляраў Кіраўніцтву справамі прэзідэнта.

Арышты ў адміністрацыі здраўніцы прайшлі ў Мінску. 21 снежня 2012 арганізатары махлярства прыляцелі на сустрэчу, прыхапілі з сабой і гендырэктара расійскай кампаніі ФБГ «Карпарацыя». Там іх і накрыў КДБ.

Арышты прайшлі пасля таго, як расійскія кампаніі «Новы горад БКД» і ФБГ «Карпарацыя» пачалі судзіцца з санаторыем. Прэтэнзіі на мільёны даляраў: нібыта працы праводзіліся напавер, а беларусы ў выніку не заплацілі.

Як паведаміў сын Георгія Саракашыша Канстанцін, бацька віны не прызнаў. Хаця яшчэ на стадыі следства ён звяртаўся з прашэннем на імя Лукашэнкі. Праўда, яму адмовілі ў памілаванні.

Між іншым, звяртае ўвагу акалічнасць, што справу не сталі перадаваць у Расію, як тое было ў выпадку з экс-гендырэктарам «Уралкалія» Уладзіславам Баўмгертнерам. Баўмгертнера тады экстрадзіравалі ў Маскву, дзе яшчэ працягваецца расследаванне.

**СМ**

## Фура пратараніла «Жыгулі» з украінцамі

Легкавік **расплюшчыла**, але ўсе засталіся жывымі.

ДТЗ адбылося 22 кастрычніка каля вёскі Дроздава ў Лідскім раёне. Як паведамілі ў ДАІ Гродзенскай вобласці, «Жыгулі-7» прыпыніліся на скрыжаванні, каб саступіць дарогу. Па галоўнай дарозе праязджаў трактар, які чысціў праезную частку. А дальнабой на МАНе з прычэпам ззаду ўехаў у легкавік. Фура ехала 80 км/г і нават не прытармазіла на «ляжачых паліцэйскіх» перад скрыжаваннем. Удар быў такі моцны, што «Жыгулі» кінула на трактар і адкінула ў кювет. Машыну проста расплюшчыла. Праўда, абышлося без смерцяў: пацярпелі толькі двое пасажыраў ВАЗа, якіх шпіталізавалі.

Кіроўца фуры быў цвярозым. А аварыю дапусціў праз няўважлівасць.

**СМ**



### Вышук



**Разводзілі на крэдыты**

Хлопцаў на фота падазраюць у махлярстве. Мяркуецца, што яны прасілі людзей у крэдыт афармляць мабільныя тэлефоны і планшэты. Абяцалі выплачваць самі, але «кідалі». А гаджэты прадавалі праз інтэрнэт. Калі вы пацярпелі ад гэтых хлопцаў, звяртайцеся ў Цэнтральнае РУУС Мінска на: (017) 288-83-02, (044) 791-80-40.

### Сцісла

**Пасадзілі праз 13 гадоў**

У верасні 2001 у Мінску 22-гадовы хлопец падчас п'янай сваркі нажом адрэзаў галаву 18-гадоваму. І ўцёк. 13 гадоў ён не паказваўся ў беларускую сталіцу. А сёлета прыехаў да сваякоў і быў затрыманы. Аказалася, жыў у Цюменскай вобласці Расіі, завёў сям'ю і дзяцей. А за столькі гадоў не змяніў ні прозвішча, ні грамадзянства. У забойстве прызнаўся.

**«Розачку» да горла**

Днём 23 кастрычніка п'яны дзяцюк узяў у закладніку жанчыну ў Мінску. У краме ў падземным пераходзе каля ўнівермага «Беларусь» ён прыставіў «розачку» (рыльца разбітай бутэлькі) да горла прадавачкі і сам выклікаў міліцыю. Патрабаваў, каб з ізалятара выпусцілі яго брата, затрыманага за распаўсюд псіхатропаў. Нападніка ўдалося абясшкодзіць. Жанчына моцна не пацярпела. Раней 25-гадовы хлопец быў судзімы за вымаганне і заведама падманнае паведамленне аб рыхтаваным выбуху.

**Арыштавалі і любімага сабачку**



Былую прадавачку з Магілёва абвінавачваюць у крадзяжы. 26-гадовая дзяўчына брала грошы ў пакупнікоў, але міма касы клала сабе ў кішэню. За некалькі месяцаў так прысвоіла больш за 70 мільёнаў рублёў. Грошы ж пайшлі на «атрыбуты прыгожага жыцця»: дарагую касметыку, мабільнік і ёркшырскага тэр'ера. Цана на такога сабачку пачынаецца з пары соцень даляраў і сягае да тысячы. На яго, між іншым, накладзены арышт. Хоць пакуль і застаецца ў гаспадыні, у выпадку прызнання судом віны дзяўчыны адправіцца ў прыбытак дзяржавы.

**Накралі на 500 мільёнаў**

Затрыманы падазраваныя ў шэрагу крадзяжоў у Мінскім раёне. Мяркуецца, што двое хлопцаў, 1985 і 1986 гадоў нараджэння, за 2014 «паднялі» не менш за дзясятак дамоў. Яны залазілі праз вокны, забіралі грошы, ювелірныя ўпрыгожанні, тэхніку. Агульная сума скрадзенага склала не менш за 500 мільёнаў рублёў. Не выключана, што крадзяжоў было больш.

**Загінуў 8-гадовы раварыст**

Здарэнне адбылося раніцай 24 кастрычніка ў Брэсце. Аўтобус паварочваў на вуліцу Луцкую, калі на пешаходным пераходзе збіў раварыста. 8-гадовы хлопчык загінуў на месцы. Заведзена крымінальная справа за парушэнне ПДР.

**«Пракурылі» тону лёну**

Падлеткі ў Кіраўску вырашылі стаіцца, каб пакурыць. А лепшага месца, чым схованка з сухім ільном, не знайшлі. Накурыліся так, што лён разгарэўся — полымя шугала на некалькі метраў у вышыню. А пажарным спатрэбілася сем гадзін, каб цалкам ліквідаваць пажар. Справу ж завялі на вартаўніка, які не дагледзеў, як у схованка пралезлі дзеці. Шкоду ацанілі ў 4 мільярды рублёў.

**КМ**

# Паралізаванаму вярнулі рухомасць ін’екцыяй нюхальных клетак

**Польскія навукоўцы** прымянілі наватарскую методыку.



Дарэк Фідыка, паралізаваны пасля нажавога ранення ў спіну, змог зноў пачаць хадзіць, дзякуючы наватарскай тэрапіі.

Лячэнне заключалася ў наступным: мужчыну перасадзілі нюхальныя клеткі з носа ў спінны мозг. Рабілі гэта польскія хірургі ў супрацоўніцтве з вучонымі Лондана.

Даследаванні на жывёлах ужо паказалі, што ін'екцыі абалонкавых клетак, вылучаных з нюхальных нерваў, у спінны мозг паралізаваных пацукоў здольныя аднавіць нервовую перадачу і пазбавіць ад паралічу. Цяпер упершыню ў свеце гэтая методыка была ўжытая на чалавеку. Частка нервовай сістэмы, якая адказвае за нюх, рэгенеруецца на працягу ўсяго жыцця чалавека, у сувязі з чым даследчыкі і вырашылі выкарыстаць яе клеткі для аднаўлення пашкоджанняў спіннога мозгу.

Аднаўленне спіннога мозгу складалася з некалькіх этапаў:

1) Хірургі выдалілі ў пацыента адну з дзвюх нюхальных цыбулін, каб вылучыць з яе абалонкавыя клеткі нюхальных нерваў і вырасціць іх у лабараторыі.

2) Праз два тыдні паралізаванаму пачалі рабіць мікраін’екцыі выгадаваных у лабараторыі клетак (агулам прыкладна 500 тысяч клетак) вышэй і ніжэй за тую вобласць, дзе спінны мозг быў пашкоджаны з прычыны ўдару нажом.

3) Чатыры «палоскі» нервовай тканіны былі змешчаныя ў спінны мозг папярок васьмімільметровага разрыва.

У выніку праз тры месяцы ў пацыента з'явілася адчувальнасць сцёгнаў, а праз паўгода пасля лячэння ён ужо зрабіў свае першыя крокі з дапамогай фізіятэрапеўта. Праз два гады пасля аперацыі Фідыка можа пры дапамозе спецыяльнай рамы выйсці з рэабілітацыйнага цэнтра. Акрамя таго, у яго часткова аднавіўся кантроль мачавога пузыра і кішэчніка і сэксуальная функцыя.

**Лявон Максюта**

**Фотафакт**



«Міс Беларусь — 2004» Вольга Антропава і «Міс Беларусь — 2008» Вольга Хіжынкова сфатаграфаваліся ў майках-вышыванках.

# TUT.BY хоча адкрыць курсы беларускай мовы на змену «Мове ці каве»

Пра гэта «Нашай Ніве» паведаміў заснавальнік TUT.BY **Юрый Зісер**.



Паводле яго словаў, пакуль ёсць толькі ідэя і жаданне зрабіць такія заняткі. «Было першае абмеркаванне праекта, і распрацоўка праграмы была даручана рэдактарцы партала **Алене Шарамет-Андрэевай (на фота)** — яна энтузіястка, яна будзе гэтым займацца. Цяпер рыхтуецца канцэпцыя. Мяркую, курсы пачнуцца ў лістападзе, калі не ў пачатку, дык у канцы дакладна», — сказаў сп.Зісер.

Ён таксама дадаў, што заняткі будуць праходзіць раз ці два разы на месяц.

Алена Шарамет-Андрэева кажа: «Мы добра ведаем, што ў нашай аўдыторыі ўзрастае попыт на вывучэнне мовы, што нас цешыць. Сярод нашай каманды разглядаюцца варыянты, пры якіх мы зможам прапанаваць практыку ў беларускай мове, напрыклад, наведвальнікам нашай Галерэі TUT.BY, але казаць пра тое, што мы ствараем свае курсы — не зусім карэктна».

Аднак яна таксама запэўніла, што «калькаваць тое, што ўжо рабілася, мы не збіраемся».

**Кірыла Хілько**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# У сутарэннях, альбо СССеРыял

Першае карыснае дзеянне, якое я здзяйсняю штодзень, — гэта вынас хатняга смецця. Вось і ў мінулую сераду жонка ўпёрла мне запоўнены пад завязку пакет, і я бадзёра пакрочыў па прыступках у двор...

Падыход да кантэйнераў, якія, дарэчы, мяняюць ужо ці не пятае месца ў нашым двары, перакрыў вялікі белы фургон з прычэпам. Паблізу, нацягнуўшы ад пранізлівага ветру шэры капюшон, завіхаўся нейкі маларослы чалавек, мабыць, кіроўца.

Трэба сказаць, што вецер на гары, дзе ад 1966 года ўзвышаецца наш дом, не сціхае ніколі. Дом, дарэчы, добра вядомы мінчукам — у савецкія часы папулярным кафэ «Планета», сёння — крамай пад назвай «Дом православной книги».

«Паслухайце, — звярнуўся я да кіроўцы, — чаму вы так нязручна паставілі свой фургон? Ні падысці, ні смеццявозу пад'ехаць... Вунь, смецце ўжо на зямлю валіцца...»

«Капюшон» павярнуўся, з-пад яго выглянуў немалады шараваты твар з прыемнай, трохі вінаватай усмешкай: «Выбачайце, але тут будзе здымацца кіно...» — «Якое кіно?!» — «Обратная сторона Луны». Не чулі? Расійцы здымаюць, Аляксандр Кот. Той, што «Брестскую крепость» зняў... Сёння будзе здымаць у вашым сутарэнні... На даху ўжо здымаў...» — «Пачакайце... А ў жыхароў спыталі, ці згодны яны цярпець нязручнасці? Святло ў вочы, грукат... Нават смецце не выкінуць...» — «Што вы! Тут дзясяткі ўзгадненняў атрыманы — ад Кіраўніцтва справаў прэзідэнта да ЖЭСа...»

Так, пагадзіўся я, Кіраўніцтва справамі прэзідэнта ведае, што жыхары пацерпяць, вельмі цярплівыя ў нас жыхары. І пацікавіўся, пра што кіно. «Ну, там як з мінулага ў сучаснае, з сучаснага ў мінулае... Фантастыка... Мне, праўда, больш падабаецца, калі машыны сутыкаюцца...»

Ён яшчэ нешта тлумачыў, а я ўспомніў, што ў сутарэнні, дзе ў цёмным, запыленым аж да дзёру ў горле, завуголлі месціцца і мая

## Ён увогуле быў чалавекам абавязку — «дарагі Леанід Ільіч»

забітая цвікамі кладоўка, я не быў мо гадоў трыццаць. Забыўся нават на тое, што там захоўваецца. А вось, бач ты, нехта ў тых сутарэннях усё яшчэ нешта шукае...

Праз гадзіну ўся прастора вакол дома запоўнілася, што той пакет са смеццем, пад завязку. Не ведаю, як увогуле змясціліся сярод амаль прыціснутых адзін да аднаго легкавікоў вялізныя фургоны з надпісам «Тихо! Идет съёмка», генератары на колах, сафіты, нейкія мітуслівыя людзі... Усё гэта грукатала, біла па вачах, смярдзела і мацюкалася...

Штосьці ўсё ж чуў пра тое кіно, знаёмая назва. Загугліў. Так і ёсць: расійскі тэлесерыял, ужо два гады як матляецца па тэлеэкранах. Галоўны герой, Міхаіл Салаўёў, капітан паліцыі з Масквы, ловіць маньяка, які забівае маладых жанчын. Маньяк, вядома, збівае капітана машынай, і той усяляецца «ў цела ўласнага бацькі, Міхаіла Салаўёва-старэйшага, старшага лейтэнанта савецкай міліцыі, і за акном — 1979 год...»

За акном — 2014 год. Ля майго дома — працяг...

«Так, працяг, — тлумачыць чалавек у спартовых штанах і красоўках, відаць, распарадчык ад «Беларусьфільма». — Да нейкай даты здымаюць... У наступным годзе пабачым...» — «Украінцы не пабачаць...» — «Чаму? Ах, так, адключаюць расійскія каналы... Інфармацыйная вайна, самі ведаеце...» — «А што, дзеянне адбываецца ў Беларусі?» — «Не-не, Расія, ціпа Савецкі Саюз, пры Брэжневе... Людзям такое падабаецца...» — «Ціпа тады добра жылося?» — «А ці не добра? Што б ні гаварылі, але ціха было. Не тое, што зараз...»

Не ведаю, што там адбывалася і будзе адбывацца на «Обратной стороне Луны». Магчыма, нават, нешта цікавае.

Але дакладна ведаю, што не сыходзіць з расійскіх тэлеканалаў бясконцы серыял, як добра жылося ў СССР, асабліва пры Брэжневе. З бескарыслівымі і мудрымі сакратарамі абкамаў, з мужнымі энкавэдэшнікамі, вынаходлівымі міліцыянтамі, з патрыятычнымі савецкімі людзьмі, якім дзеля савецкай радзімы не шкада і жыцця...

Калі б хтосьці з сучасных тэлесерыяльшчыкаў сапраўды зацікавіўся жыццём у брэжнеўскі час, я таксама завёў бы яго ў пад'езды майго дома і паказаў, дзе начавалі дзясяткі людзей, каб не згубіць сваю чаргу на мэблю — у суседнім доме ў нас магазін мэблі.

Потым расказаў бы, як падчас вайны ў Афгане генерал, што жыў у маім доме, разам з жонкай дамагаліся замест кафэ змясціць ваенкамат, нават подпісы збіралі... Што праўда, жыхары падпісваліся. Чаму ж не ваенкамат? Вайна ж! ! Інтэрнацыянальны абавязак!

Ён увогуле быў чалавекам абавязку — «дарагі Леанід Ільіч». І ціхіх абавязкаў гэткіх па ўсім свеце было пры ім што брыльянтаў у ягонай дачкі...

Ці не тыя «інтэрнацыянальныя абавязкі» выбухнулі сёння крывёю — ад Сірыі да Данбаса?!

...Надвячоркам кіно з'ехала са двара. Ізноў стала чуваць, як шаманіць на ветры апалае лісце. Вось толькі смецця дадалося. І я, нарэшце, данёс да яго свой неданесены раніцні пакет.

*kamerton_41@mail.ru*

# «Вова, навошта табе Беларусь? Хіба ты кінеш піць?»

Адзін дзень у **Бранскай вобласці** Расіі, якая некалі хацела ў Беларусь.

17 кастрычніка на прэс-канферэнцыі для расійскіх СМІ кіраўнік Беларусі сказаў ці жартам, ці сур'ёзна: «Я кажу: Уладзімір Уладзіміравіч, вы не перажывайце. Гэта вы, кажу, павінны напружвацца. Частка смаленскіх, бранскіх або пскоўскіх зямель некалі належала Беларусі, таму давядзецца падзяліцца». Адзін з расійскіх сайтаў наладзіў апытанку, вынікі паказалі, што нібыта большасць наведвальнікаў сайта прагаласавала за ўваход вобласці ў склад Беларусі: «Бранск — наш!». Ну, ці будзе наш. Праўда, потым адміністрацыя рэсурса адкрыла карты і сапсавала інтрыгу: большасць з тых, хто «прагаласаваў» за Беларусь, — самі беларусы.

Гэта ўсё натхніла нас на падарожжа ў Бранскую вобласць. Можа, людзі і сапраўды хочуць далучыцца да Беларусі, а ім не даюць?

У першым жа горадзе — Злынцы — нам ледзь не далі ў вока за пытанне: «Ці не супраць вы, каб Бранская вобласць увайшла ў склад Беларусі?». А наогул жа было такое адчуванне, што нас тут чакалі і папярэдзілі праз надпісы на платах, што няма нам тут чаго лавіць. «Слава Руси!» — крычыць невядомы аўтар касымі літарамі на плоце. «Родина — для русских!» — папярэджвае надпіс на іншым плоце ў вёсцы.




### Злынка

Самы малы горад Бранскай вобласці, з насельніцтвам больш за 5 тысяч чалавек. Кіруемся туды, дзе найбольш віруе жыццё — на мясцовы кірмаш. Пытаемся там пра ахвотных жыць у РБ, а не РФ. «А мне — ніякай розніцы. Беларусь мне вельмі падабаецца. Там парадак, нават у вёсках чыста. І культуры там больш. Абы ўсё працавала. А то мае сыны кідаюць сям'ю і едуць працаваць на Маскву. Ды як і ўсе амаль мужыкі ў нас. Сем'і распадаюцца. Іншы раз прыедзе бацька — а сын яго не пазнае», — дзеліцца жанчына, якая гандлюе вопраткай на кірмашы.

Побач з ёй некалькі месцаў занялі беларусы. Прапаноўваюць кілбасу, малако, сыр. Кажуць — попыт ёсць.

Маладога чалавека Дзмітрыя, якога сустрэлі на аўтавакзале, вельмі абурыла наша пытанне «за Беларусь». «Што?! Хто сказаў? Вашы тэрыторыі? Ды стоміцеся вы! А калі Лукашэнка так сказаў — то хутка мы Беларусь забяром сабе! І палову Украіны, пачынаючы ад Чарнігава. І Беларусь будзе наша. Нават не сумнявайцеся. І не кажыце, што вы не хочаце ў Расію! Хочаце! Зробім адну вялікую рускую дзяржаву. Таму што ўсе мы — рускія», — эмацыйна выпаліў расіянін.



Сваім жыццём малады чалавек цалкам задаволены: ездзіць на заробкі ў Маскву, зрабіў летам рамонт у сваёй хаце на 300 тысяч рублёў (расійскіх). «У нас лепш, у Расіі! У нас больш грошай, магчымасцей. Мы можам гаварыць усё, што хочам, а вы — не», — пераможна ўсміхнуўся на развітанне жыхар Злынкі.

По расійскім заканадаўстве, чалавек, які жыве ў чарнобыльскай зоне (напрыклад, частка Бранскай вобласці), мае права адмовіцца ад дома ці кватэры і выехаць у іншае месца. Дзяржава ж абавязана выплаціць яму кампенсацыю. Па некаторай інфармацыі, калі квадратны метр у Бранску каштуе 30 тысяч рублёў, то ў Клінцах і Навазыбкаве кошты могуць быць ад 50 да 110 тысяч. На «радыяцыйных» дамах мясцовыя чыноўнікі здорава нагрэлі рукі. Дамы прадавалі па касмічных коштах і па некалькі разоў.




### Навазыбкаў

Пачнём з асартыменту крамаў. Злыя людзі пішуць у інтэрнэце, што Расія вельмі пацярпела ад санкцый, і жыхарам РФ можна хіба толькі рэпу парыць ды бульбу беларускую смажыць. Бо пармезаны і лангусты розныя падпалі пад забарону. Ёсць у крамах крэветкі! Напісана, што краіна вытворчасці — Расія. І авакада на прылаўках было з прыметнікам «расійскае». Мараканскія памідоры. Італьянская кава. Польская бульба-фры і марожаная гародніна. Французскі каньяк, нарвежскі ласось. Апельсіны-мандарыны і так далей. Прадаўцы паціскаюць плячыма: «Не ведаем, што там за санкцыі, у нас усяго хапае, ніякіх праблем няма»

На мясцовым кірмашы раскладзеныя гомельскія і калінкавіцкія кілбасы, мазырскае малако, хлеб і булкі з гіпермаркета «Алмі». Некаторыя мясцовыя прадпрымальнікі касавураць на беларусаў, іншыя — абураюцца. Даходзіць да канфліктаў.

Досыць абазнанай у палітыцы выявілася пенсіянерка Валянціна Сямёнаўна. Наконт аб'яднання — яна не супраць, толькі хай вырашаюць гэта прэзідэнты. «Нам, як вырашаць — так і добра. Але, канечне, Расія лепш, чым Беларусь. Нам сваё! Расія — наша. Вось толькі ўсе цяпер навалiліся на Расію праз Украіну, усе гэтыя еўры! Маўляў, Пуцін вінаваты. Ды дзякавалі б лепш нашаму Пуціну! Каб не ён — вайна была б, ужо б Украіна пайшла на нас», — разважае пенсіянерка.

Яна згаджаецца, што нядаўна цэны ў Расіі пайшлі ўверх, і ведае чаму. «Гэта праз бежанцаў! Да нас столькі іх прыехала. Я так думаю: старых і дзяцей нам, канечне, трэба было забраць. А вось чаго мужыкі да нас едуць? Яны павінны там заставацца і бараніць сваю зямлю! Бо нам не трэба ўмешвацца!» — упэўнена бабулька.

Жыхар райцэнтра Юрый нават не ведае, да каго далучаць Навазыбкаў. «Тут раней Украіна была, Польшча была, яшчэ раней — Літва. Дык да каго нам далучацца? Канечне, аб'яднацца можна было б з кім, краіна была б мацнейшай. Ат, ды што я магу гаварыць — я звычайны лапаць!» — махае рукой мужчына.

У краме ў вочы кідаюцца футболкі з надпісамі «Самы ветлівы чалавек» і выявай Пуціна. 500 (менш за 150 тысяч) рублёў цана такой прыгажосці.

### Дземенкі

Вёска здзівіла нас паваленымі студнямі, скасавуранымі хатамі, якія ўраслі ў зямлю. На прыпынку аўтобуса чакае мясцовая жыхарка Аксана. Яна не бачыць розніцы паміж РБ і РФ. «Дзе чые землі? Ат, тут усё так перамяшана, што не разабрацца. Едзеш у Гомель — мытні няма, мяжы таксама амаль няма — якая розніца, чыя дзе зямля?» — тлумачыць жанчына.

### Муравінка

Безліч дзіўных хат: старых, разваленых дашчэнту, спаленых і абшытых нядаўна сайдынгам. Навошта? Тут прыняты такі рамонт? Дом валіцца, а яго абабілі дошкамі, нешта прыбудавалі. Жахлівае відовішча. У адным з такіх занядбаных дамоў, але замкнутых, праз акно ўбачылі дзве свежыя прыгожыя труны. Жах. Сустрэлі адну мясцовую жыхарку, Ніну Іванаўну. Яна праявіла абсалютную абыякавасць да тэрытарыяльных прэтэнзій. «Ат, добра там, дзе нас няма. Добра там, дзе чалавек не хварэе», — завяршыла размову старая. Кажа, што ў вёсцы павымiралі ўсе, толькі некаторыя дамы пад дачу нехта набыў.

### Вышкаў

Раней тут была запалкавая фабрыка, потым яна загнулася, і людзі засталіся без працы. Ля аднаго з двароў рамантуюць плот двое мужчын. Вось яны нам і расказалі пра недарэчны рамонт халуп у суседніх вёсках. Выявілася, што абабіць халупу сайдынгам, нават калі ў яе няма падлогі і столь заўтра абваліцца на галаву, — значыць разбагацець. Дамы тыя месцяцца ў чарнобыльскай зоне, і такую халупу можна здаць дзяржаве за вялікія грошы. Па словах мясцовых, за звычайны вясковы драўляны дом у тры акны можна атрымаць мільён расійскіх рублёў, а можна і больш. Абабіў сайдынгам ці прыбудаваў нешта — і гэта лічыцца рамонтам. Правёў у калідор ад ганка трубу — і ўжо дом лічыцца як з ацяпленнем. Толькі значна прасцей «пракацiць» такія дамы праз рыэлтараў.

І вось, калі мы ўжо збіраліся дахаты, расчараваныя да апошняй ступені, — поспех! На цэнтральнай плошчы Вышкава нам сустрэўся Уладзімір, які горача згадзіўся і эмацыйна ўхваліў, каб Бранская вобласць, ну хоць Злынкаўскі раён, ну хоць Вышкаў увайшоў у склад Беларусі. «Ну хай бы ўвайшлі мы ў склад Беларусі! Хоць бы ў нас парадак быў! Там жа так чыста, парадак, усе працуе! А тут усё развалілі, раскралі! Мне паўтара года да пенсіі — а дапрацаваць няма дзе!» — папрасіўся да нас жыхар Вышкава.

І тут паўз нас прайшла яго знаёмая і рашуча асудзіла сепаратысцкія схільнасці. Жанчына пачала сарамаціць суседа: «Вова, як табе не сорамна? Навошта табе тая Беларусь? Ну скажы! Што ты, калі далучышся да Беларусі, хіба ты кінеш піць?! Табе якая розніца, Вова? Лепш скажы, колькі гадоў ты працаваў за сваё жыццё!» — заклікала да адказу жанчына.

«А дзе мне працаваць, дзе?» — агрызнуўся той.

Нам жа жанчына кінула: «Агідна, проста агідна слухаць пра такое! Мы — расіяне, і не трэба нам ніякая Беларусь!»

**Юлія Шымкевіч, Злынка — Гомель**

# Да 1 снежня даручана выявіць усіх «дармаедаў»

У Магілёўскай вобласці неабходна ўзяць на кантроль грамадзян, якія нідзе не працуюць. Пра гэта заявіў старшыня Магілёўскага аблвыканкама Пятро Руднік.

Ён даручыў адпаведным службам правесці на працягу лістапада маніторынг сітуацыі ў раёнах і гарадах вобласці на прадмет выяўлення «дармаедаў».

«Гэта вельмі важная праца, бо, як правіла, менавіта тыя, хто нідзе не працуе, складаюць большасць грамадзян, якія вядуць асацыяльны лад жыцця. Яны прычыняюць у сваіх рэгіёнах няма-ла праблем, у тым ліку пагаршаюць абстаноўку па гібелі людзей ад знешніх фактараў. Мы павінны перапісаць усіх дармаедаў, усталяваць за імі кантроль і прыняць меры па забеспячэнні іх занятасці»,— сказаў Пятро Руднік.



Старшыня аблвыканкама даручыў далучыцца да гэтай працы не толькі выканаўчую ўладу і праваахоўнікаў, але і мясцовыя Саветы. «Нам неабходна гэтую працу правесці максімальна аператыўна, каб ужо 1 снежня цалкам валодаць сітуацыяй», — запатрабаваў Руднік.

**Паводле БелТА**




## У Мінску пройдзе XXXV з'езд КПСС

Ён адбудзецца **з 31 кастрычніка па 2 лістапада**.

У з'ездзе возьмуць удзел першы сакратар ЦК КПБ Ігар Карпенка (ён жа намеснік старшыні Мінгарвыканкама), старшыня ЦК КПРФ Генадзь Зюганаў, першы сакратар ЦК Камуністычнай партыі Украіны Пятро Сіманенка і старшыня Партыі камуністаў Рэспублікі Малдова Уладзімір Варонін.

Як паведаміла прэс-служба Мінгарвыканкама, урачыстае адкрыццё з'езда пройдзе 1 лістапада, у рамках мерапрыемства дэлегаты ўскладуць кветкі да стэлы «Мінск — горад-герой».

Заяўляецца, што СКП-КПСС з'яўляецца добраахвотнай непалітычнай міжнароднай грамадскай федэрацыяй камуністычных партый на постсавецкай прасторы. З 2001 года лідарам СКП-КПСС з'яўляецца Генадзь Зюганаў. У склад СКП-КПСС уваходзяць 18 камуністычных партый дзяржаў былога СССР, у тым ліку непрызнаных Абхазіі, Паўднёвай Асеціі, Прыднястроўскай Рэспублікі, а таксама Латвіі, Літвы і Эстоніі.

Найвышэйшым органам партыі з'яўляецца з'езд, які склікаецца адзін раз на 4 гады. Папярэдні з'езд прайшоў у Маскве.

**Tut.by**

## Кіраўніцтва спраў прэзідэнта і Нацбанк выкупілі «Банк Масква-Мінск»

Расійскі прадавец аказаўся **пад санкцыямі** Захаду.

У Нацбанку адбылося падпісанне дамовы куплі-продажу кантрольнага пакета акцый ААТ «Банк Масква-Мінск». Купцамі акцый сталі Нацбанк і «Парытэтбанк», якім валодае Кіраўніцтва справаў прэзідэнта.

Акцыі набыты ў расійскага «Банка Масквы» і швейцарскай кампаніі БМ Холдынг АГ, якія ўваходзяць у расійскую Групу ВТБ. Адметна, што і «Банк Масквы», і група ВТБ аказаліся пад санкцыямі Захаду.

**ЯМ**

**Фотафакт**



**У Літву прыбыло судна, якое гарантуе газавую незалежнасць ад Расіі**

У панядзелак у Клайпеду прыбыло судна Independence («Незалежнасць»), якое з пачатку 2015 забяспечыць пастаўку газу (ЗПГ) у газатранспартную сістэму Літвы, а магчыма, і іншых краін Балтыі. Судна — гэта плывучы завод, які ператварае звадкаваны газ у звычайны. Звадкаваны падвозяць спецыяльнымі танкерамі, Літва ўжо падпісала адпаведную дамову з Нарвегіяй.

Цяпер Літва, як і астатнія краіны Балтыі, атрымлівае прыродны газ толькі з Расіі. Значыць, пры патрэбе Масква магла б шантажаваць перакрыццём крана.

Зараз Вільні лягчэй будзе таргавацца з «Газпрамам» за цану. Каб магчы цалкам замяніць расійскі газ нарвежскім, нашым балтыйскім суседзям яшчэ трэба пашырыць некаторыя галіны газаправодаў каля Клайпеды.

Беларусь 100 працэнтаў свайго газу атрымлівае ад «Газпрама».

## Ахлабысцін сказаў, што памерлыя ад Эболы становяцца «зомбі»



Расійскі акцёр — і дзівак — Іван Ахлабысцін у размове з тэлеканалам Russia Today заявіў, што «нібыта памерлыя» ад віруса Эболы людзі праз некалькі дзён ажываюць. Пры гэтым акцёр правёў паралель з фільмамі пра жывых мерцвякоў, г.зн. зомбі.

«У апошні час у кінамастацтве ўзмоцнена мусіравалася тэма «жывых мерцвякоў». А я чуў, што шмат выпадкаў, калі людзі, нібыта ўжо памерлыя ад віруса Эболы, ажывалі праз некалькі дзён. Мне нідзе пакуль не ўдалося даведацца: што ў іх там з мазгамі? Але арбалет на ўсялякі выпадак купіў», — заявіў Ахлабысцін RT у адказ на просьбу пракаментаваць сітуацыю з сусветнай эпідэміяй Эболы.

Акцёр спецыяльна ўдакладніў, што ён не жартуе: «Калі вы думаеце, што я жартую — вы таксама памыляецеся». На тым тыдні стала вядома, што Латвія і Украіна забаранілі Ахлабысціну ўезд.

Міністр замежных спраў Латвіі Эдгар Рынкевіч растлумачыў сваю пазіцыю ў Twitter тым, што праімперскія выказванні акцёра распальваюць этнічную варожасць.

А вось у Мінску Іван Ахлабысцін выступіць 13 лістапада (КЗ «Мінск») з працягам сваіх «Духоўных гутарак». Больш за палову білетаў ужо распрадалі.

**АГ**

**З пошты рэдакцыі**

# Адкрыты зварот А.Лукашэнку, Б.Пятровічу, А.Хадановічу

Піша **Уладзімір Падгол**.

**Вынікі сустрэчы літаратурных чыноўнікаў рознай каштоўнаснай арыентацыі з Уладаром літаратуры скончыліся пераканаўчай псіхалагічнай перамогай прыхільніка «Вайны і міру».**

Ён выйшаў з той сустрэчы літаратурным пракурорам, які абвінавачіў творцаў у нядатнасці напісаць эпахальны твор. І спакусіў літаратараў прэміяй: вы пішыце, а я дам канчатковую ацэнку вашай пісаніне і, мажліва, камусьці грошы.

Як па мне, дык зараз трэба было б працягнуць дыялог і зрабіць наступны крок. І ад незалежнага Саюза пісьменнікаў і ад ПЭН-Цэнтра падаць Лукашэнку адкрыты зварот, у якім:

1) зазначыць, што «Вайна і мір» у Беларусі напісана Васілём Быкавым. Гэта прызналі ва ўсім свеце, выдаўшы ягоныя творы практычна на ўсіх мовах народаў свету.

2) Прапанаваць Лукашэнку выдаць за дзяржаўны кошт поўны збор твораў Васіля Быкава.

3) Назваць галоўную літаратурную прэмію імем Васіля Быкава.

4) Надаць праспекту Пераможцаў імя геніяльнага літаратара.

Магчыма, перад гэтым сабраць подпісы пад гэтым зваротам у сябраў абодвух саюзаў пісьменнікаў і сябраў ПЭН-Цэнтра.

Прашу Пятровіча і Хадановіча разгледзець маю прапанову.

Можа, так атрымацца, што Лукашэнка сам рэалізуе маю прапанову. І тады які выгляд мы будзем мець?

# У Гродне сарвалі прэзентацыю «Мовы»

23 кастрычніка ў Гродне ў парафіяльным доме ўніяцкай царквы Маці Божай Фацімскай павінна была адбыцца прэзентацыя кнігі Віктара Марціновіча «Мова».

Людзей сабралася багата, кніга ўжо перад гэтым атрымала добрыя водгукі. Але міліцыя адбыцця сустрэчы аўтара з чытачамі не дала. Спачатку міліцыянеры правялі перапіс пашпартоў усіх прысутных. А пасля далі 10 хвілін на само мерапрыемства. «Было весела», — саркастычна пісалі гарадзенцы ў сацыяльных сетках.


РАДЫЁ «РАЦЫЯ»

Самога Марціновіча запрасілі ў міліцыю для дачы тлумачэнняў. «Там склалі пратакол. Я так разумею, што прычынай цікаўнасці было тое, што сустрэча з чытачамі не была неяк санкцыянавана гарвыканкамам. Такога не было ні з адным маім раманам і ні ў адным горадзе. Нідзе не было такога жорсткага супраціву. Пасля гэтага прадстаўнік гарвыканкама, я не ведаю яго прозвішча, прапанаваў пайсці да чытачоў і сказаць, што сустрэча сарваная. Аднак я прапанаваў, каб ён зрабіў гэта сам. Ён пагадзіўся і сказаў прамову для прысутных. І нехта з чытачоў папрасіў 10 хвілін. Таму я атрымаў толькі 10 хвілінаў і вельмі ўдзячны за гэта», — сказаў В.Марціновіч у інтэрв'ю радыё «Свабода».

Прадстаўнікі ўлады склалі пратакол і паабяцалі даць прававую ацэнку вечарыне на працягу 10 дзён. Адметна, што адбывалася гэта ў той дзень, калі Аляксандр Лукашэнка праводзіў сустрэчу з пісьменнікамі.

АГ

Яшчэ раз пра добрае

## Антыдэпрэсант «Мова»

Захапляльная гісторыя рамана «Мова» Віктара Марціновіча пабудавана па законах дэтэктыва. Але пад выглядам забаўляльнай літаратуры аўтар падсунуў нам моцныя лекі.

У рамане апісаны самы кепскі сцэнар будучыні: нас праглынула спачатку Расія, а пасля і Кітай, мова пад забаронай, ад Еўропы нас аддзяляе Новая Вялікая Кітайская сцяна. Але кніга, хоць ставіць нас перад праблемамі — вялікімі! — што віселі ўнутры і якія ты нават сфармуляваць не быў здольны, таксама дае жаданне жыць і працаваць.

Нездарма тэкстам натхніліся мастакі. Наталля Гарачая стварыла серыю ілюстрацый, якія, па словах аўтара, будуць выкарыстаны для ілюстрацыі нямецкага перакладу кнігі.

Брэнд «Саколка» распрацаваў калекцыю цішотак «Мова». Рыхтуецца да прэзентацыі інтэрнэт-гід па «мінскім чайна-таўне».

Гэта ўжо не раман — гэта рэактыўны рухавік!

Аляксандра Баярына

## Дзякуючы пераносу працоўных дзён, зімовыя канікулы пачнуцца раней запланаванага

«Даведаўся, што ў гэтым навучальным годзе зімовыя канікулы ў школе пачынаюцца аж з 28 снежня і працягваюцца да 11 студзеня. Гэта значыць, што дзецікаталікі будуць павінны ісці ў школу на Вігілію і Божае Нараджэнне, у адрозненне ад праваслаўных. Чаму такая дыскрымінацыя?» — такое пытанне даслаў наш чытач Алесь Каспяровіч.

У Міністэрстве адукацыі пацвердзілі, што канікулы і сапраўды пачынаюцца 28 снежня. Аднак вучыцца на каталіцкае Нараджэнне Хрыстова дзеці ўсё ж не будуць.

«Згодна з дзяржаўным календаром выходных і святочных дзён, фактычна канікулы ў школе пачнуцца ўжо з 25 снежня, — паведаміла «Нашай Ніве» Марыя Саротнік, начальнік упраўлення сацыяльнай, выхаваўчай і ідэалагічнай работы Мінадукацыі Беларусі. — Бо каталіцкае Раство — гэта афіцыйна непрацоўны дзень, а за 26 снежня людзі адпрацоўць ці, у выпадку школы, адвучацца раней, 20-га».

Такім чынам, хвалявацца бацькамкаталікам і іх дзеткам няма чаго. Праводзіць свята на працы ці ў школе ім не прыйдзецца.

Уладзіслаў Швядовіч

## Унікальную купюру у 5000 рублёў прадалі за 1600 даляраў

Яе набыў **карыстальнік з Расіі** пад нікам Васілій1965.

Яшчэ ніколі раней беларуская папяровая банкнота не прадавалася за такія шалёныя грошы. Увогуле ж, карыстальнікі інтэрнэт-аўкцыёна прапаноўвалі за яе 2400 даляраў, але некаторыя стаўкі былі знятыя, бо ўдзельнікі таргоў не пацвярджалі сваю стаўку, а іхні рэйтынг быў «нулявы», гэта значыць, ніхто на сайце іх не ведаў.

Купюра была выстаўлена на таргі 26 верасня. «Стан патрыманы. Па цэнтры маленькая скразная адтуліна (працёрта). Невялікія надрывы па баках», — апісаў лот прадавец пад нікам Bonist. Унікальнасць купюры ў яе




рэдкай серыі АГ. За час назірання баністы (калекцыянеры папяровых грошай) не сустракалі такога экзэмпляра.

Аўкцыён па продажы рэдкай купюры набраў амаль 30 тысяч праглядаў. Стаўкі зрабілі 14 чалавек.

ЗП

От такое

## Хуткія спатканні па-беларуску

30 кастрычніка пройдзе першая сустрэча «Хуткія спатканні (спіддэйтынг) па-беларуску».

«Калі вы хочаце пазнаёміцца, шукаеце сябра ці сяброўку, «Арт Сядзіба» запрашае на хуткія спатканні па-беларуску.

10 хлопцаў і 10 дзяўчат, якія адно аднаго не ведаюць, будуць мець 2 хвіліны, каб адно з адным пераназнаёміцца ды паразмаўляць па-беларуску. Па выніках размоваў кожны зможа адзначыць, хто яму ці ёй спадабаўся, і калі сымпатыя будзе ўзаемная, мы пра гэта паведамім», — пішуць арганізатары.

Каб паўдзельнічаць, трэба даслаць заяўку на artsiadziba@gmail.com.



## Скандал у Маскве: беларус згвалтаваў расійскую порназорку



У сталіцы Расіі змешчаны пад варту грамадзянін Беларусі Дзмітрый Касянкоў. Яго і ягонага сябра Максіма Піліпенку падазраюць у згвалтаванні расійскай порназоркі Лолы Тэйлар (Любові Б.)

Дзяўчына прыехала ў кватэру да маладога чалавека, з якім пазнаёмілася ў інтэрнэце. Аднак госцю сустрэлі двое. Яны закавалі Любоў Б. у кайданкі і гвалтавалі ўсю ноч.

Пад раніцу дзяўчына паспрабавала ўцячы і саскочыла з трэцяга паверха, зламаўшы абедзве нагі. Злачынцы заўважылі яе адсутнасць і зацягнулі назад у кватэру.

Мінакі выклікалі паліцыю, якая і затрымала сяброў-гвалтаўнікоў. Па дадзеных расійскіх СМІ, Любоў Б. у мінулым працавала бібліятэкарам у Екацярынбургу. А пасля яна знайшла сябе на порнасцэне.

Сямён Цыбульскі

## Інстытут фізіялогіі АН: У паловы беларускіх і расійскіх мужчын няякасная сперма

Вынікі беларуска-расійскага даследавання былі агучаныя на сумеснай канферэнцыі НАН Беларусі і Сібірскага аддзялення Расійскай акадэміі навук, што прайшла ў Новасібірску ў межах дзён Беларусі ў Сібіры.

Навукоўцы прааналізавалі ўзоры семені 1700 мужчын з Беларусі і Сібіры (з Новасібірска, Улан-Удэ, Кемерава і Якуціі).

8% мужчын мелі паніжаны аб'ём эякуляту, у 12% колькасць сперматазоідаў была ніжэйшая за норму, а ў 2% узораў сперматазоідаў не было ўвогуле. У 36% прааналізаваных узораў спермы была выяўлена замалая рухомасць сперматазоідаў.

Даследчыкі высветлілі, што рухомасць сперматазоідаў памяншаецца ў тых, хто курыць больш за 10 цыгарэт штодня ці мае індэкс масы цела, вышэйшы за норму.

Загадчыца лабараторыі нейрафізіялогіі Інстытута фізіялогіі НАН Беларусі кандыдат біялагічных навук Святлана Пашкевіч адзначыла, што статыстыка сведчыць аб зніжэнні канцэнтрацыі сперматазоідаў у здаровых мужчын. Яна сказала, што гэта тэндэнцыя можа мець небяспеку ў будучыні.

Кірыла Хілько

Прызначэнне

## Зыгмантовіч — в.а



Беларуская федэрацыі футбола вызначылася, хто будзе рыхтаваць нашу зборную да адборачнага матча чэмпіянату Еўропы з Іспаніяй і таварыскага матча з Мексікай, што адбудуцца ў лістападзе. Каманда давераная Андрэю Зыгмантовічу. Яму 51 год, родам з Мінска. Зыгмантовіч быў чэмпіёнам СССР у 1982 годзе ў складзе «Дынама». Пасля развалу Савецкага Саюза пагуляў у Галандыі і Іспаніі. У пачатку кастрычніка ў адстаўку былі адпраўлены Георгій Кандрацьеў. З ім нацыянальная зборная ўпала ніжэй за плінтус — на 106 радок рэйтынга. Паміж Бахрэйнам і Суданам. На пастаяннай аснове ж зборную, хутчэй за ўсё, узначаліць Аляксандр Хацкевіч.

# Беларус і мора

**Паўлу Ляхновічу** з Пінска 25 кастрычніка споўнілася 60 гадоў. Ён актывіст нацыянальнага руху, піша, а прафесію меў вельмі рэдкую: марак-падводнік. Успамінамі пра экстрэмальную службу ў савецкім падводным флоце ён падзяліўся з «Нашай Нівай».

У падводнікі, прызнаецца спадар Павел, ён трапіў выпадкова. Хацеў вучыцца на лётчыка, але не прайшоў па здароўі. Тады на перакладных, дызель-цягнікамі, паехаў у мараходку ў Баку.

Конкурс туды быў высокі, але паступіць нечакана дапамагла беларускасць. Выкладчыца матэматыкі мела сваякоў каля Ліды і дала рашаць лёгкае ўраўнанне, а яшчэ больш здзівіў выкладчык фізікі, армянін. «Я вучыўся ў беларускамоўнай школе і тэрміналогіі па-расейску не ведаў, — успамінае Ляхновіч. — І не мог перакласці «ўяўную выяву». Кажу, што па-беларуску толькі памятаю, пачаў апісальна тлумачыць. Ён склаў рукі: «Пяць балаў». Мусіць, яму спадабалася, што я не ведаю расейскай мовы».

У 1977-м, пасля вучобы, штурмана Ляхновіча размеркавалі на Паўночны флот, на падводны крэйсер, які нёс балістычныя ракеты і меў першую ў СССР лічбавую тэхніку. І якраз пад выпрабаванні ядзернай зброі: «З Аленевай губы мы пайшлі ў Белае мора, у Северадзвінск, дзе нам загрузілі ракеты. Затым адышлі да вострава Жыжгін і адтуль ужо стралялі. Гэта праз усю краіну — з Белага мора да Камчаткі! Адзін раз ракета не выйшла... Я не зразумеў, што адбылося, таму не спалохаўся. А ракета магла ў шахце і ўзарвацца».


СЯРГЕЙ МАКАРЭВІЧ

**Павел Ляхновіч**

нарадзіўся 25 кастрычніка 1954 у в. Сярэдняя Мінскага раёна. Выпускнік Каспійскага вышэйшага ваенна-марскога вучылішча ў Баку. Аўтар кніг прозы «Пачатак сезона» (1998), «Зялёны дуб» (2012), дзіцячай аповесці «Ігнась-чарадзей» (2014). Жыве ў Пінску. Жанаты, мае дачку.

Як праходзіла служба? На баявое дзяжурства выходзілі, кажа спадар Павал, як на вайну: «Грузілі ядзерную зброю, ішлі да берагоў Амерыкі і чакалі загаду з Масквы сцерці з зямлі амерыканскія ці якія цэлі. Амерыканцы прысылалі свае крэйсеры, каб не даць выпусціць ракеты, а патапіць нашу лодку раней. І адзін раз мы заўважылі «хвост»: запусцілі другі рэактар і на вялікай хуткасці зматаліся».

Прычым такія трохмесячныя дзяжурствы каля берагоў ЗША не былі звязаныя з абвастрэннем адносін. Гэта была будзённасць «халоднай вайны».

Самае страшнае здарэнне на падводным крэйсеры — пажар. Ляхновіч перажыў яго ў 1981-м. «18 студзеня. Гэта было Нарвежскае мора, за 30 міль ад Барэнцбурга на Шпіцбергене. Я заступіў на вахту. Хвілін праз пятнаццаць далі аварыйную трывогу. Адчыняю дзверы ў цэнтральны пост — а там усё ў дыме. Мы адзелі сродкі абароны. І тут пайшла каманда, што лодка ўсплывае. А перад гэтым на адсек далі ЛОХ (сістэма аб'ёмнага хімічнага пажаратушэння) — распыляецца вадкасць, якая тушыць усё. Але перад падачай даецца каманда адзець ізалюючыя дыхальныя апараты, інакш ад фрэону чалавек траціць прытомнасць. А той, хто павінен быў даць каманду надзець дыхальныя апараты, збег — спалохаўся. І па баявых пастах каманда не прайшла, таму не ўсе хлопцы дасталі апараты. Пяць чалавек страцілі прытомнасць... А што гарэла — магчыма, нейкі матросік не патушыў цыгарэтку ці іскра трапіла, і ў гальюне так разгарэлася, што метал расплавіўся».

Тое, што мора вабіць тых, хто звязаў з ім лёс, Ляхновіч абвяргае. Наадварот: той, хто трапіў на флот, увесь час імкнецца вырвацца на бераг, кажа ён. Яму толькі праз 10 гадоў цудам удалося перавесціся з Паўночнага флоту ў Пінскі вучэбны атрад, выкладчыкам ваенна-марской падрыхтоўкі. І з той пары ў мора не выходзіў, кажа спадар Павел, і дадае: «Дзякуй Богу».

З той пары ён плавае па Прыпяці на яхце свайго сябра, мастака Яўгена Шатохіна «Сакавік 25».

**Гутарыў Сяргей Макарэвіч**

**Нацыянальны акадэмічны**




У Купалаўскім — прэм'ера: спектакль «Тата». У яго аснове — п'еса «Ціхі шолах развітальных крокаў» узыходзячай зоркі беларускай драматургіі Дзмітрыя Багаслаўскага. Паводле сюжэта, былы вайсковец Аляксандр (яго ролю ў розных складах іграюць Раман Падаляка або Сяргей Рудзя) вяртаецца пасля смерці бацькі (Генадзь Аўсяннікаў, Генадзь Гарбук) у родны дом. Таксама задзейнічаныя такія зоркі, як Зоя Белахвосцік і Арнольд Памазан. Сёстры Аляксандра хочуць прадаць будынак. Галоўны герой супраць. Аляксандр спрабуе разабрацца, ці любіў ягo бацька, які нават пасля смерці прыходзіць да яго ў снах.

Паставіла спектакль рэжысёрка Кацярына Аверкава, дэкарацыі стварыў мастак Барыс Герлаван, касцюмы — яго вучаніца Вольга Шчарбінская.

Музыку да пастаноўкі напісаў Мацей Сабураў.

Наступныя паказы спектакля, анансаванага як «сон у 2-х дзеях», пройдуць на галоўнай сцэне Купалаўскага 11 і 12 лістапада.

**МК**

## Свята паэзіі ў Гарошкаве прайшло пад наглядам людзей у чорным

Свята паэзіі «Дух — гэта, людзі, Я!» штогод збірае ў Гарошкаве, над Дняпром, родных і сяброў Анатоля Сыса, аматараў яго творчасці. У арганізатараў свята былі планы правесці частку мерапрыемства ў Бронненскай школе, у суседняй вёсцы. Але напярэдадні выявілася, што гэта немагчыма: маўляў, раптам пачала працякаць столь. Больш за тое, міліцыя, ідэолагі і нейкія «людзі ў чорным» назіралі як за ўскладаннем кветак на могілках, так і за чытаннем вершаў на падворку роднай хаты Сыса.

Выглядала гэта дзіка.

Але дзе наша не прападала? Інтэрнэт і тут знайшоў з чаго пажартаваць. Вядомыя пісьменнікі прыехалі на свята таксама ў чорных куртках і паліто. «Свята паэзіі ў Гарошкаве прайшло пад наглядам людзей у чорным і з удзелам людзей у чорным», — такі подпіс далі да гэтага фота карэспандэнта «Нашай Нівы» ў Фэйсбуку.


ЮЛІЯ ШЫМКЕВІЧ

**Юлія Шымкевіч, Гомель**

### Сціслa

**ЕГУ прэзентуе анталогію палітвязняў**

Еўрапейскі гуманітарны ўніверсітэт прэзентуе кнігу «Голас волі з-за кратаў: Анталогія твораў беларускіх палітзняволеных». Яе укладальнік — палітолаг Аляксандр Фядута, які сам таксама быў зняволены па палітычных матывах. Анталогія ўтрымлівае вершы, успаміны, дзённікавыя запісы, апавяданні і артыкулы беларусаў, якіх пераследуюць за палітычную дзейнасць. Сярод аўтараў — вядомыя асобы, такія як Уладзімір Някляеў, Павел Шарамет, Алесь Кіркевіч, Зміцер Дашкевіч, але будуць і аўтары, чые творы друкуюцца ўпершыню.

**Гран-пры «Бардаўскай восені» атрымаў Ясінскі**

Фестываль беларускай бардаўскай песні прайшоў у Бельску-Падляшскім на Беласточчыне (Польшча). Гран-пры фестывалю атрымаў Аляксандр Ясінскі з гурту «Босае сонца». Фестываль сёлета прайшоў у 21 раз.

**Джаан Роўлінг апублікуе новы твор**

На Хэлоўін, 31 кастрычніка, брытанская пісьменніца Джаан Роўлінг паабяцала апублікаваць на сайце pottermore.com гісторыю пра Далорэс Амбрыдж — адмоўнага персанажа серыі кніг пра Гары Потэра. Новы твор Роўлінг будзе складацца прыкладна з 1700 слоў і ўключаць апісанне жыцця Амбрыдж да падзей кнігі «Гары Потэр і Ордэн Фенікса», дзе яна ўпершыню з'явілася. Роўлінг перыядычна публікуе ў інтэрнэце невялікія апавяданні пра сваіх герояў. У пачатку ліпеня пісьменніца размясціла на сайце тэкст пра лёсы дарослых Гары Потэра, Рона Уізлі і Герміёны Грэйнджэр.

**У Мядзеле паставяць помнік Максіму Танку**

Яго адкрыццё адбудзецца 6 лістапада на плошчы Шаранговіча. У гэты ж дзень адбудзецца закладка капсулы пад будаўніцтва дома-музея Максіма Танка. На ўрачыстасці плануецца прысутнасць вядомага мядзельца — мастака Васіля Шаранговіча. Пасля афіцыйнай часткі ўсіх чакае канцэрт у Доме культуры.

**СМ**

## ГАНДБОЛ

### Беларусь — Боснія




**29 кастрычніка на «Чыжоўка-Арэне» (Ташкенцкая, 19)** адбудзецца адборачны матч да чэмпіянату Еўропы па гандболе сярод мужчынскіх зборных. Нашы прымаюць баснійцаў. Пачатак у 16:30.

## ХАКЕЙ

### «Кузня» ў Мінску

**1 і 2 лістапада** адбудуцца два матчы рэгулярнага чэмпіянату КХЛ. 1-га мінскія дынамаўцы прымуць новасібірскую «Сібір». А 2-га — новакузнецкі «Металург». Гульні пройдуць на «Мінск-Арэне», пачатак а 17.

## КАНЦЭРТЫ

### BosajeSonca

**31 кастрычніка а 19 у клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** грае гурт BosajeSonca.

### S°unduk

**1 лістапада ў Тэатры эстрады (Маскоўская, 18А)** — канцэрт гурту S°unduk. Пачатак а 19.

### «Срэбнае вяселле»

**1 лістапада а 19 ў клубе Re:Public (пр. Прытыцкага, 62)** выступае кабарэ-бэнд «Срэбнае вяселле».

### Akute ў Магілёве

**2 лістапада ў Магілёве, у клубе «Куба» (Першамайская, 29)**, сумесны канцэрт ладзяць гурты Akute і «Разбітае сэрца пацана». Пачатак а 18.

### «Змяя»

**2 лістапада ў TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** грае гурт «Змяя». Пачатак а 20.

## ВЫСТАВЫ

### Vulica Brasil

**У Цэнтры сучасных мастацтваў (Някрасава, 3)** пасялілася выстава Vulica Brasil! Два паверхі Цэнтра аддалі ў рукі стрыт-мастакоў — бразільскіх і беларускіх, — каб яны ператварылі галерэю ў міні-горад сваіх стрыт-арт шэдэўраў. Асаблівасць выставы ў тым, што яна пасапраўднаму «жывая», бо штодзень там будзе штосьці змяняцца і дадаецца.





### Выстава Уладзіміра Напрэенкі

**Вялікай мастацкай школай для У.П.Напрэенкі** стала спасціжэнне свету Марка Шагала, з яго свабоднай творчай шчырасцю, кампазіцыйнай незвычайнасцю, фантазійнасцю (палітпых «Вяртанне майстра»). Выстава ў Палацы мастацтваў будзе праходзіць да 9 лістапада.



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**Арт-Ворша-Рубон!**

**У Палацы мастацтваў (Казлова, 3) дзейнічае выстава «Арт-Ворша-Рубон!»**, прысвечаная 500-годдзю слыннай бітвы пад Оршай. Галоўная задача выставы — пашырэнне гісторыі ВКЛ і яго культуры ў мастацтве. Пасля перамогі пад Оршай Канстанцін Астрожскі ў гонар гэтай падзеі будуе шэраг храмаў па ўсім Вялікім Княстве. Ёсць меркаванне, што ім была замоўлена карціна «Аршанская бітва». А як увасабляюць славутую гісторыю нашай краіны і вядомыя, і маладыя аўтары сучаснасці, можна пабачыць да 9 лістапада.

## ТЭАТР

### 30 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш
**Лялек** — Чаму старэюць людзі?..
**Юнага гледача** — Кот у ботах

### 31 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Пан Тадэвуш
**Лялек** — Чароўныя падарункі
**Юнага гледача** — Белаенежка і сем гномаў

### 1 лістапада

**Балет** — Лаўрэнсія
**Беларускай драматургіі** — Кантракт, Гісторыя двух сабак
**Купалаўскі** — Паўлінка
**Лялек** — Мыйдадзір
**Юнага гледача** — Вясёлы Роджар

### 2 лістапада

**Балет** — Лаўрэнсія
**Беларускай драматургіі** — Ціхі шэпт сыходзячых крокаў
**Купалаўскі** — Паўлінка
**Лялек** — Пэпі Доўгаяпанчоха
**Юнага гледача** — Казка чароўнага лесу

### 4 лістапада

**Балет** — Анюта
**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ
**Купалаўскі** — Тата
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Юнага гледача** — Аднакласнікі

### 5 лістапада

**Балет** — Лебядзінае возера
**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ
**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа
**Юнага гледача** — Аднакласнікі

## КІНО

### Новы год у вар'ятні

Прыстанак праклятых
**Жанр:** трылер, драма
**Рэжысёр:** Брэд Андэрсан
**У ролях:** Кет Бэкінсэйл, Майкл Кейн, Джым Сцёрджэс, Бэн Кінгслі, Брэндан Глісан, Дэвід Цьюліс, Джэйсан Флемінг.
ЗША, 112 хв.




1899-ы. Толькі скончыўшы Оксфард, малады псіхіятр Эдвард Ньюгейт уладкоўваецца ў элітную псіхіятрычную лякарню. Нягледзечы на цёплы прыём галоўнага доктара Лэнга, Эдвард здзіўляецца новым метадам лячэння — разняволенасці і свабодзе, у якіх жывуць пацыенты. Асабліва яму падабаецца Элізa Грэйвз, вытанчаная піяністка. Аднак хутка малады доктар знаходзіць у сутарэннях сапраўдны персанал лякарні, які трымаюць за кратамі...

Фільм створаны па матывах апавядання Эдгара Алана По «Сістэма доктара Смоля і прафесара Перо». Ад яго ў стужцы засталася толькі сама лякарня, якая месціцца ў адным з замкаў у гарах Францыі (дзеянне фільма перанесенае ў Англію) і захопленая вар'ятамі, а таксама малады чалавек, трохі абазнаны ў псіхіятрыі, які прыязджае паглядзець яе. Аднак сюжэт атрымаўся закручаным і надзвычай глыбокім, у ім стае нечаканых паваротаў. Выдатная ігра зорных акцёраў надала персанажам аб'ёму.

**Настасся Уласава**

# Гісторыя Беларусі. Шляхамі Давіла і Маўкольда

Піша Алег Дзярновіч.



МАЛЮНАК СЯРГЕЯ ХАРЭЎСКАГА

У стварэнні «віленскай легенды» полацкіх князёў мы бачым ранні этап фармулявання дынастычных і тэрытарыяльных прэтэзій маскоўскіх уладароў на полацкую і літоўскую спадчыну. Пераможаныя кіеўскім князем і сасланыя ў 1129 годзе у Візантыю князі Полацкай зямлі, як мяркуецца, знайшлі сябе там у сярэднім эшалоне вайсковай эліты. Гэтаму спрыяла сітуацыя ў імперыі: у XII ст. да чужаземцаў на вайсковай службе сталі ставіцца больш лаяльна, выхадцы з Русі, Балгарыі і Сербіі пачалі займаць значныя пасады ў імператарскім войску.

Князёў высылалі з жонкамі і дзецьмі. Хтосьці застаўся назаўжды ў чужой зямлі. Ці не з ліку полацкіх выгнанцаў была княгіня Ксення Брачыславаўна, пахаваная ў царкве Данііла Стоўпніка ў Македоніі?

## Два княжычы

Звесткі пра прыгоды палачанаў у Візантыі расцярушаныя па старонках асобных летапісаў, і мы не зможам цалкам рэканструяваць іх жыццё там і абставіны вяртання. Але штосьці ўдалося адшукаць. Так, пад 1139 годам — праз дзесяць гадоў пасля высылкі — летапісы паведамляюць, што «вярнуліся з Царграду два [полацкія] княжычы». Гэтыя звесткі пакінуў нам ігумен Выдубіцкага манастыра пад Кіевам Майсей, які каля 1200 г. упарадкаваў летапісныя звесткі, складзеныя пры княскіх дварах розных земляў Русі. Вынікам дзейнасці Майсея стаў Кіеўскі летапіс, які працягвае «Аповесць мінулых часоў» і папярэднічае Галіцка-Валынскаму летапісу.

**«Віленская легенда» полацкіх князёў была створаная ў інтарэсах Масквы**

Але чаму полацкія княжычы вярнуліся менавіта ў 1139 г.? Іх галоўны ганіцель, кіеўскі князь Мсціслаў Уладзіміравіч, памёр яшчэ ў 1132 г. Справа можа быць у тым, што ў 1139 г. кіеўскі стол заняў Усевалад Ольгавіч — сын Алега Святаславіча. Лёс Алега трохі нагадваў лёс полацкіх князёў. У 1079 г. хазары, верагодна з санкцыі візантыйскага імператара і кіеўскага князя Усевалада, схапілі Алега ў Цьмутаракані — княстве на Таманьскай паўвыспе — ды вывезлі ў Канстанцінопаль. Але ў той час адбыўся бунт рускіх наймітаў, якія складалі імператарскую гвардыю. Панапіваўшыся, яны хацелі скінуць імператара і напалі на яго спальню. Грэчаскія салдаты адагналі іх і замкнулі ў адной з залаў. Найміты праспаліся і прасілі прабачэння, але іх перавялі са сталіцы на неспакойныя межы. Выслалі і князя Алега, які ў бунце ўдзелу, відаць, не браў, — проста за тое, што быў рускім. Трапіўшы на выспу Родас, ён ажаніўся там з грэцкай патрыцыянкай Феафаніяй Музалон, а ўжо праз два гады, у 1083 г., атрымаў дазвол вярнуцца ў Цьмутаракань. У «Слове пра паход Ігаравы» Алег Святаславіч вядомы як Гарыславіч.

Новы, ад 1139 г., вялікі кіеўскі князь Усевалад Ольгавіч і быў старэйшым сынам Алега і Феафаніі. Ён добра ведаў сямейную гісторыю выгнання і, апроч таго, быў у блізкіх зносінах з Комнінамі, новай імператарскай дынастыяй Візантыі. Ольгавічы ў той час пачалі браць рэванш у Кіеве і Чарнігаве, і гісторыкі лічаць, што полацкія княжычы маглі з'явіцца на Русі для патрымкі Усевалада Ольгавіча.

Такім чынам, вяртанне двух маладых полацкіх князёў стала магчымым дзякуючы палітыка-дыпламатычнай камбінацыі паміж Канстанцінопалем і Кіевам. Мяркуецца, што яны былі толькі першымі веснікамі — пазней за імі ў Полацкую зямлю маглі вярнуцца і іншыя прадстаўнікі роду.

Але імёны княжычаў-вяртанцаў мы даведаемся з яшчэ больш позняга летапіса і на гэтым сюжэце нам прыйдзецца трохі спыніцца асобна.

## «Віленская легенда»

Гэтыя імёны паведамляе нам помнік маскоўскага летапісання XVI ст. Уваскрасенскі летапіс: Давіл і Маўкольд. Застаецца не да канца зразумелым паходжанне імёнаў гэтых князёў. Выглядае, што для іх утварэння былі ўзятыя біблейскія і англасаксонскія ўзоры, што, увогуле, магло адпавядаць традыцыям рускіх князёў. Але не адпавядае традыцыям князёў полацкіх.

Паводле летапіса, Давіл і Маўкольд былі сынамі князя Расціслава Усяславіча (званага ў летапісе Рагвалодавічам), князя Лукомльскага. А вось далей пачынаюцца амаль сенсацыйныя рэчы — у сваю чаргу, у Маўкольда быў сын Міндоўг, а ў Давіла — сыны Від і Гердзень, што выводзіць летапісцам як продкі Гедымінавічаў. Такім чынам, ствараецца версія полацкай генеалогіі вялікіх князёў літоўскіх. Паводле Уваскрасенскага летапіса, Давіл і Маўкольд былі «запрошаныя вільнянамі на стол» — то бок сталі віленскімі князямі.

У свой час яшчэ Мікола Ермаловіч здзівіўся з нагоды імёнаў гэтых полацкіх князёў — «нетыповых і нетрадыцыйных для полацкай дынастыі». Але беларускі аўтар прызнаваў сапраўднасць гэтых звестак і ішоў далей, сцвярджаючы, што ад 70-х гадоў XI ст. (ад князя Расціслава) можна гаварыць аб існаванні Віленскага ўдзела ў Полацкім княстве. Ранняя гісторыя Вільні сапраўды патрабуе больш пільнага аналізу, з улікам найноўшых археалагічных дадзеных. Але, разважаючы пра «віленскую легенду» полацкіх князёў, варта прыгадаць гісторыю паходжання самога Уваскрасенскага летапіса.

Ён уяўляе сабою летапісны звод XVI ст. Гэта значыць, ва Уваскрасенскі летапіс былі зведзеныя фрагменты розных летапісаў і адпаведным чынам адрэдагаваныя. Рэдагаванне адбывалася ў інтарэсах вялікіх князёў маскоўскіх. Назва ж летапіса паходзіць ад Уваскрасенскага манастыра ў Новым Іерусаліме пад Масквой, дзе і захоўваўся рукапіс.

Такім чынам, у стварэнні «віленскай легенды» полацкіх князёў мы бачым ранні этап фармулявання дынастычных і тэрытарыяльных прэтэзій маскоўскіх уладароў на ўсю полацкую і літоўскую спадчыну. Хоць за гэтай легендай стаяць рэальныя падзеі, звязаныя з вяртаннем прадстаўнікоў полацкага княскага дому з выгнання.

## Канец Кіеўскай дзяржавы

Але не трэба думаць, што ў Полацку ўсе гэтыя 30-я гады XII ст., гады выгнання, сітуацыя была статычнай. Спачатку ў Полацку княжыў сын Мсціслава Кіеўскага Ізяслаў, які браў актыўны ўдзел ў выправе на Полацкую зямлю 1129 г. Але ўжо ў 1132 г. новы кіеўскі князь Яраполк, дзядзька Ізяслава, перавёў яго ў Пераяслаўль. Ратацыя князёў была ў традыцыях Рурыкавічаў. Пазней Ізяслаў зноў апынуўся на полацкіх абшарах — яму быў перададзены Менск, а дадаткова таксама Тураў і Пінск. У Полацку ж застаўся княжыць ад імя кіеўскага дому брат Ізяслава Святаполк.

Вось у гэты момант блытаніны палачане і паспрабавалі вырашыць сітуацыю на карысць уласнай дынастыі. Полацкае веча абвесціла Святаполку, што ён «пазбаўляецца іх», ды выгнала з Полацка. На княжанне быў запрошаны прадстаўнік мясцовай дынастыі з віцебскай лініі Ізяславічаў, унук слаўнага Усяслава і сын Святаслава — Васілька. Праўдападобна, адбылося гэта ў 1132 г. Васілька Святаславіч быў братам яшчэ адной легендарнай постаці Полацка — святой Еўфрасінні.

Ці быў Васілька ў візантыйскім выгнанні? А калі не, дык чаму? Існуюць дзве версіі. Паводле адной, князю Васільку таксама давялося служыць у Візантыі, адкуль ён вярнуўся ў 1131 альбо ў 1132 г. і княжыў да полацкага прызвання ў Віцебску ці ў Ізяслаўлі. А расійскі гістарыёграф XVIII ст. Васіль Тацішчаў сцвярджаў, што праз сваю маці Сафію Васілька прыходзіўся ўнукам Уладзіміру Манамаху. Таму, маўляў, у 1129 г. Мсціслаў Уладзіміравіч і не выслаў у Візантыю свайго пляменніка Васільку.

Васілька паводзіў сябе досыць лаяльна ў адносінах да Кіева. Пры ім Полацк заставаўся васалам Кіева і Манамахавічаў. Так, у 1139 г. полацкі аддзел удзельнічаў у выправе кіеўскага князя Яраполка на Чарнігаў супраць Ольгавічаў. Пскоўскія летапісы паведамляюць нам таксама, што ў 1138 г. Васілька Святаславіч прыязна сустракаў і падтрымліваў выгнанага з Ноўгарада, пасля панесенай паразы ад чудзі, Усевалада Мсціславіча, які стане пскоўскім князем і святым Рускай царквы.

Усе гэтыя драматычныя працэсы вакол Полацкай зямлі адбываліся на фоне фундаментальных зменаў па ўсёй Русі. Гісторыкі мяркуюць, што пасля смерці ў 1132 г. кіеўскага князя Мсціслава Уладзіміравіча, які «ўціхамірваў» Полацкую зямлю ў 1129 г., Кіеўская дзяржава канчаткова распалася на шэраг самастойных земляў-вотчынаў, якімі валодалі асобныя галіны роду Рурыкавічаў. Цяпер калектыўная адказнасць гэтага роду захоўвалася толькі за «Рускай зямлёй» у вузкім сэнсе слова — за Кіеўскай зямлёй, першапачатковым ядром Кіеўскай Русі. Але кіеўскі пасад па-ранейшаму заставаўся прывабным і пачэсным, за яго змагаліся, каб атрымаць прыярытэт у іншых палітычных справах. Усе гэтыя працэсы яшчэ больш аддалялі Полацк ад Кіева і астатняй Русі.

*Пра тое, ці лёгка быць суверэнным, і пра падзел самой Полацкай зямлі мы даведаемся ў наступным выпуску «Гісторыі Беларусі».*

Піша **Стась Карпаў.**

# Лішнія ключы

— Навошта табе столькі ключоў? — спытала мяне жонка, дастаючы амаль новыя джынсы з пральнай машынкі.

— Колькі — столькі?

— Столькі, што ў цябе ўвесь час праціраецца кішэня. Ва ўсіх джынсах у адным і тым жа месцы.

Сапраўды. Якія ні вазьмі — насупраць правай кішэні белая пляма.

Скажам шчыра, вялікая звязка ключоў — гэта зручна. Ты заўжды не толькі адчуваеш, што яны на месцы, але і нават чуеш іх прысутнасць падчас хады. Вось яны — ад усіх дзвярэй. Маленькія, вялікія, электронныя, механічныя, круглыя, жоўтыя, шэрыя. Розныя. З іншага боку, кожны акт адмыкання дзвярэй ператвараецца ў пакутлівую латарэю.

Вось гэты — ад уваходных дзвярэй у хату. Гэты — ад вёскі. Гэты ад кватэры бацькоў. А вось...

Ад першага ў жыцці офіса. Я ўжо і адрас не назаву. Ад другога офіса. Ад трэцяга. Ад месцаў, дзе я больш ніколі не апынуся. Ад кватэры бабулі. Яе ўжо няма, цяпер там жыве стрыечная сястра. Я яе бачу раз на пару гадоў. Дый замок там, я чуў, памянялі. Ключ ад дамафона ў бацькоў, які больш не дзейнічае ў іх пад'ездзе, але дзіўным чынам адмыкае пад'езд сябра. Зручна, але мы ўжо год як страцілі жаданне бачыць адно аднаго. Пара ключоў, прызначэнне якіх я не ведаю. Яны заўсёды блытаюцца з ключом ад ніжняга замка. Шмат ключоў. Грамаў 400 жывой вагі. Навошта мне яны патрэбны?

Першы раз у жыцці я сядзеў і выкладаў іх на стол: непатрэбныя і невядомыя, пазбаўленыя сэнсу, пазбаўленыя дзвярэй і адрасоў. Нарэшце звязка істотна схуднела. Настолькі, што я, выходзячы з кватэры, адчуваў дыскамфорт. Ці не забыў я ключы дома? Ці не згубіў на дарозе?

І вось адна выпадковая сустрэча шмат што растлумачыла мне і ўдыхнула іншы сэнс у маю маленькую замочна-дзвярную трагедыю. Мы гаварылі з адным чалавекам на тэму кніг, якія нешта мяняюць у цябе ўнутры і там застаюцца.

— Маленькі Прынц, — сказаў я. Экзюперы.

— Пушкін, Талстой, Дастаеўскі — геніі. Спрачацца з гэтым можа толькі ідыёт.

— Гэта не важна, — сказаў я, — ці геніі яны. Гэта прадмет іншай размовы. Але як Пушкін можа памяняць твой унутраны свет? Персанальна твой. Як? З якога свету і на які? Што канкрэтна мяняе Талстой ці Дастаеўскі?

Чалавек вельмі нерваваўся. Жэстыкуляваў і выкрыкваў лозунгі пра геніяў, але па тэме так нічога і не сказаў: ён працаваў выкладчыкам і верыў у тое, што ягонае слова — нейкае асаблівае і не патрабуе аргумента, бо гэты чалавек і сам асаблівы, і сам па сабе аргумент.

І вось, здаецца, тады я зразумеў усё пра свае ключы, і пра сябе, і пра чалавека-выкладчыка, і пра шмат каго яшчэ. Ключы — гэта проста метафара. Гэта нашы адказы і ідэі, якія мы пачынаем назапашваць з таго моманту, калі першы раз успрымаем нейкую «праўду». Мы іх носім з сабой, і, нават калі мы імі ніколі не карыстаемся, нам спакойна ад таго, што іх у нас шмат. На любы выпадак.

**Нам спакойна ад таго, што іх у нас шмат. На любы выпадак**



У школе нам казалі, што лічбаў ніжэй за нуль не бывае. Гэта было страшна зручным веданнем. І вельмі нязручным стала адкрыццё, што такія лічбы бываюць і іх роўна столькі ж, колькі па адваротны бок ад нуля. Тым не меней, ніхто з нас не чапляўся за тэзісы малодшай школы. Мы стойка прынялі матэматыку новага ўзору і гэты «нулявы» маленечкі ключык, стаў бадай адзіным, пакінутым у мінулым. Далей справы пайшлі не так паспяхова: на ўроках гісторыі мы перажывалі разам з камунарамі ўвесь цяжар барацьбы за Liberte, Egalite, Fraternite і нават самыя разумныя з нас не верылі, што наогул няроўнасць паміж людзьмі — рэч заканамерная, а не выключная. Бо ўсё, што мы засвоілі, крычала дурным голасам: «Дабро — гэта абсалют». Не верылі, бо не думалі.

Людзі наогул імкнуцца шмат у чым падпарадкоўваць сваю дзейнасць не высновам, якія падказвае ім рацыя і практычны досвед, а веры ў слушнасць ідэі. Скажам, людзі лічаць, што трэба дапамагаць бедным і што гэта дабрадзейнасць. Вось, адпаведна, Афрыка і атрымлівае гуманітарную дапамогу ў нейкіх касмічных маштабах, пры гэтым той факт, што вынікам дапамогі становіцца нежаданне мясцовага насельніцтва працаваць, карупцыя і рэкет — «руку таго, хто дае», мала цікавіць.

Вось ключ: «Калі хочаш быць дасканалым — ідзі і прадай сваю маёмасць і раздай грошы бедным». Так казаў Хрыстос. Гэты ключ, безумоўна, адчыніць дзверы ў свет, дзе няма бедных, а ёсць дасканалыя. Праўда, ключ з'яўляецца каштоўнасцю толькі да таго моманту, пакуль чалавек не выкладвае яго на стол і не бачыць, што ён такі бліскучы і прыгожы толькі таму, што ні разу ніводных дзвярэй не адмыкаў. Але не выкладае.

Няхай вызваленыя рабы самі імкнуліся стаць рабаўладальнікамі, і няхай дэмакратыя прыводзіла, як і казаў Арыстоцель, да ахлакратыі. І няхай дапамога слабому, як і падазраваў Ніцшэ, прыводзіла да аслаблення слабога — гэта ўсё адбывалася там, па той бок дзвярэй, да якіх мы ні разу нават не падыходзілі. Мы былі заняты бясконцым збіраннем ключоў, якія мусілі б іх адмыкаць.

Ці вось яшчэ. Усе мы ведаем, што асноўнай праблемай Беларусі з'яўляецца, канечне ж, дыктатура. І супрацьстаіць ёй адно — ідэя дэмакратыі, якая жыве ў сэрцы кожнага дэміурга ў найлепшым сэнсе гэтага слова. Супрацьстаіць дыктатуры ідэя Улады Народа, а дакладней, улады кожнага самага мізэрнага арганізма ўнутры гэтага народа. Мы, падобна, так і сапраўды думаем, і не выключана, што менавіта таму наша апазіцыя слова ў слова паўтарае гэтую мантру, адліваючы для нас па нашай форме залаты ключ. Але, ведаеце, тут такая штука. Я люблю задаваць людзям адно і тое ж пытанне. Умовы. Вы — прэзідэнт. Пад вокнамі вашай рэзідэнцыі мітынгуюць прыхільнікі «азіяінтэграцыі». Мітынгі праходзяць пад лозунгамі: «Беларусь — гэта Расія», «Белыя русы — сіла» і г.д. Дык вось пытанне: ці не загадвалі б вы падшэфнаму АМАПу біць гэтых умоўнанаяўных людцоў смяротным боем?

Звычайна адказы я чую два. Першы — упэўненае «загадваў бы». Другое — няўпэўненае «не загадваў бы» з яўнымі прыкметамі крывадушнасці.

Значыць, дэмакратыі нам не надта і хочацца. А хочацца проста дыктатуры, з якой ты згодны. Бо дыктатар ніколі не адбірае правоў ва ўсіх. Ён адбірае правы ў тых, хто не хоча ягонай персанальнай дыктатуры. Мне не перашкаджаў бы дыктатар, які б разгеняў мітынгі РНЕ і заахвочваў канцэрты «Новага Неба» на прыступках Оперы. Дык чаму б нашай апазіцыі не нарадзіць чалавека, які б не мармытаў лозунгаў парыжскіх камунараў, а сказаў бы тое, што трэба сказаць? Але не. Ідэя мацнейшая за рэальнасць. Вера ў эстэтыку ключа вышэйшая за неабходнасць адмыкаць дзверы. Калі ты больш за ўсё на свеце хочаш мець вялікі залаты ключык, прыйдзецца ахвяраваць жаданнем адамкнуць дзверы з маленькай адтулінай.

Усе гэтыя ключы дадзены чалавеку на ўмове таго, што «прыйдзе час» і менавіта імі ён адчыніць дзверцы за старым палатном. Але і час надышоў, і дзверы знойдзеныя, а ключы не пасуюць! Яны не пралазяць у шчыліну, не пракручваюць сарцавіну. Але тыя, хто іх даваў, кажуць, што замок іржавы і што трэба ключык паварушыць, што «ў цябе рукі крывыя» і «давай я сам».

Ключ і дзверы — гэта гульня ў асацыяцыі. Яна прымушае нас дзейнічаць на ўзроўні набытых сацыяльных рэфлексаў. Геній — Пушкін. Свята — Новы год. Дзяржава — дэмакратыя. Дыктатура — няволя. Народ — гонар.

Але давайце правядзём рэвізію. Вывалім з кішэні ўсе ключы на нашай звязцы.

Бог, усеагульная роўнасць, усёдараванне, усеабдымная любоў, дэмакратыя, славянская духоўнасць, вялікая руская культура і безліч іншых — гэта ключы ў лепшым выпадку ад забытых адрасоў. А бывае, ведаеце, і так, што ключы аддаюцца разам з замком, які так і не ўрэзалі ні ў адны дзверы. І вы носіце іх, пазіраеце на іх і думаеце: адкуль яны ў мяне ўзяліся? Няўжо чужыя знёс?

І ключы гэтыя не тое, каб не мелі карысці. Я з 10 класа люблю вялікія, пляскатыя. Імі, ведаеце, зручна піва адкаркоўваць.

— Навошта табе столькі ключоў? — спытала мяне жонка, дастаючы амаль новыя джынсы з пральнай машынкі.

А вам?

# Як Караткевіч забараніў ставіць «Хрыста» ў Магілёве

**Невядомы факт** з біяграфіі класіка прыгадвае ўкраінскі журналіст Віталь Жажэра.

Я абяцаў напісаць пра знаёмства з Караткевічам. Тут неабходна тлумачэнне, як я ў свой час апынуўся ў Беларусі.

У 1976, калі скончыў Кіеўскі тэатральны інстытут імя Карпенкі-Карага, украінскі тэатр быў задушаны ідэалагічнай машынай — гэта была мёртвая зона, бесперспектыўная, без ілюзій. Многія выязджалі ў Маскву — як рэжысёры Танюк, Вікцюк. Цікава, што і Беларусь тады лічылася вольнай. Пра Машэрава распавядалі, што ён мог сабраць ЦК КПБ і павесці на прэм'еру ў тэатр імя Янкі Купалы — тым больш будынак ЦК месціўся зусім побач. Ва Украіне нешта падобнае ўявіць — невырагодна.

Якраз у той час галоўным рэжысёрам Магілёўскага аблдрамтэатра быў прызначаны Юры Міроненка. Ён перад тым працаваў у Кіеве, таму і паклікаў за сабой маладых акцёраў у Магілёў.

Мяне запрасіў памочнікам па літаратурнай частцы (у пабыце — «заглітам»). Мы там сабраліся ў пачатку восеньскага сезона 1976 года. Нас было з Кіева дзясятка паўтара — Магілёў быў нашым першым месцам працы.

Тэатр працаваў (як і цяпер) на расейскай мове. Міроненка паставіў некалькі яркіх спектакляў: «Інтэрв'ю ў Буэнас-Айрэсе» Генрыха Баравіка, «За ўсё добрае — смерць» Рустама Ібрагімбекава, «Арфей спускаецца ў пекла» Тэнэсі Уільямса. Але кожны жывы тэатр павінен клапаціцца і пра драматургію сваёй краіны. І я пачаў распытваць акцёраў-беларусаў, хто ў іх лічыцца найлепшым сучасным пісьменнікам. Мне назвалі два імені: Някляеў і Караткевіч. Асабліва пры гэтым падкрэслівалася, што гэтыя людзі пішуць такой беларускай мовай, «у якой нават мы ведаем не ўсе словы».



Я знайшоў у бібліятэцы кнігі Караткевіча — і наш з Міроненкам выбар спыніўся на рамане «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Мы даведаліся, што Караткевіч зрабіў па рамане кінасцэнар. У пачатку 1977 я паехаў у Мінск і знайшоў Караткевіча — у тым доме на Маркса, дзе цяпер ёсць мемарыяльная дошка.

Ён сустрэў мяне ў паношаным сінім спартыўным касцюме, мешкаватым на каленях. Сам быў падобны да схуднелага бегемота — і тварам, і гэтым абвіслым касцюмам, такое ў мяне было ўражанне, — але ўвогуле сімпатычны.

Караткевіч хуценька зацягнуў мяне ў кабінет і зашчапіў дзверы знутры — у яго быў на дзвярах такі самаробны драцяны кручок, якія бываюць на клетках з трусамі. Гаспадар сур'ёзна шэптам сказаў: «Нешта за сценкай шабуршыцца — жонка!» Затым адсунуў канапу і дастаў ледзь пачатую бутэльку зуброўкі. Мы выпілі па чарцы і селі працаваць: ён за друкаркай пры стале, а я на канапе, чытаў сцэнар.

**Караткевіч быў падобны да схуднелага бегемота**

Караткевіч, магчыма, завяршыў тады «Чорны замак Альшанскі» — такую выснову я для сябе зрабіў пасля, калі праз год-паўтара, ужо ў войску (таксама ў Беларусі), прачытаў гэты раман у часопісе «Маладосць».

Я яшчэ перад візітам паведаміў, проста з вулічнага тэлефона-аўтамата, што мяне цікавіць гэты сцэнар і я ўжо вось пад домам стаю. І Караткевіч тут жа мяне запрасіў зайсці. Можа, з майго боку гэта была авантура — так нахабна адарваць чалавека ад працы. Але Караткевіч не звярнуў на гэтую акалічнасць ніякай увагі і без цырымоній даў чытаць сцэнар: маўляў, глядзіце, ці гэта падыдзе вам.

У працэсе працы мы некалькі разоў вярталіся да зуброўкі — па-дзелавому, без асаблівых тостаў. І такім чынам былі скончаныя і бутэлька, і чытанне сцэнара. Я сказаў, што матэрыял нам падыходзіць. І тады Караткевіч (ізноў шэптам, без пафасу) сказаў тое, што сказаў: «Я вельмі рады, што гэта вам падыходзіць, але не магу дазволіць, каб мой твор ішоў на сцэне рускага тэатра ў Магілёве, дзе мая бабуля калісьці вучылася ў беларускай гімназіі!»

Не магу сказаць, што гэты адказ мне не спадабаўся, хоць і давялося вяртацца ў Магілёў з пустымі рукамі.



**Віталь Жажэра**

Нар. 1953. Украінскі журналіст, тэатразнавец. Заслужаны журналіст Украіны. Жыве ў Кіеве.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Жанчыны з мястэчка Друя (Браслаўскі раён) прыстаюць да вострава, дзе пасуцца іх каровы. Два разы на дзень вясляр Іосіф перавозіць жанчын праз Дзвіну, каб тыя маглі падаіць кароў. Друйская выспа стаіць пасярод Дзвіны, левае рукаво ракі знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі, а па правым рукаве раздвоенага рэчышча праходзіць мяжа Беларусі з Латвіяй і Еўрапейскім Саюзам.**




ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

**Барысаўскі БАТЭ быў бязлітасна разбіты дома данецкім «Шахцёрам». У рамках групавога этапа Лігі чэмпіёнаў украінскі клуб перамог беларускі з лікам 7:0. А бразілец Луіс Адрыяна забіў ажно 5 галоў! Заўзятары на трыбунах не разумелі, што адбывалася.**



ПАСОЛЬСТВА ФРАНЦЫІ

**Пісьменніца Святлана Алексіевіч стала афіцэрам Ордэна мастацтваў і літаратуры Францыі. На фота: пасол Францыі Дамініка Газюі і Святлана Алексіевіч (справа).**



**«Наведалі з сябрамі ды дзеткамі з царквы «Ян Прадвеснік» народнага паэта Ніла Гілевіча. Павіншавалі яго з Днём народзінаў, расказалі вершыкаў, наеліся цукерак і пад'елі ўсе прапанаваныя яблыкі», — піша ў Фэйсбуку грамадская актывістка Наста Дашкевіч. У верасні Нілу Гілевічу споўнілася 83 гады.**



## Анекдоты і жарты

* * *

Калі мне было 16 гадоў, цыганка нагадала, што ўсе свае грошы я буду марнаваць на жанчын. Цяпер у мяне жонка і тры дачкі... Так, у 16 гадоў я гэта сабе інакш уяўляў...

* * *

— Здароў! Ты чаму такі сумны?
— Не выспаўся.
— ...?
— Стрэлкі а другой ночы пераводзіў.

* * *

– Хлопчык, неадкладна сыходзь адсюль! Гэта сакрэтны ўрадавы аб'ект!
– Я да мамы на працу ...
– Праходзь.

* * *

Калі фільм са Стывенам Сігалам глядзець з канца, атрымаецца кіно пра выдатнага доктара-кастаправа.

* * *

Просты спосаб выйграць мільён у латарэю: трэба яе арганізаваць.

* * *

Дама дае параду сяброўцы:
— Ты можаш бясконца памяншаць свой узрост, але я раю ўсё-ткі пакінуць дзевяць месяцаў розніцы паміж тваім узростам і ўзростам тваёй дачкі...

* * *

У добрага бухгалтара не сысціся можа толькі спадніца.

* * *

З цяжкасцю ўціснуўся ў набіты аўтобус. Чхнуў, прамармытаў:
– Праклятая Эбола! ..
Ехаў з камфортам.

* * *

Вярхоўная Каларада — так будзе называцца парламент «Наваросіі» пасля выбараў у «ДНР» і «ЛНР» у лістападзе.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Помач сваім.** З Навагрудка паклікалі на вайну болей як 60 чалавек. Сем'і пакліканых апынуліся ў вельмі цяжкіх варунках. Дык вось, усе жыхары горада абложылі сябе дабравольным падаткам на карысць сем'яў запасных: кожны месяц бяднейшыя плацяць па 10 капеек, сярэднія — 20 кап., багацейшыя — 40 кап. і болей. Усе жыхары ахвотна выпаўняюць прыняты на сябе гэты добры абавязак.

**«НН». №43. 1914.**

**Украіна за крок ад рэвалюцыі.** У прэзідэнцкай кампаніі ва Украіне, як у люстэрку, можна ўбачыць, што будзе адбывацца ў Беларусі ў 2006 ці, хутчэй, 2011 годзе. Юшчанка — гэта альтэрнатыва не толькі Януковічу, але і Пуціну, і Лукашэнку, стылю іхняга кіравання. Нават знявечаны атрутаю, ён іх палохае.

**«НН». №40. 2004.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7006. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 28.10.2014.
Замова №4127.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14040